Год выданьня IV

Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 1 (8)



# Сьветач Беларусі

ЧЭРВЕНЬ 1933 году

Царкоўна-Нацыянальны Орган Праваслаўных Беларусаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
WILNO, ANTOKOL—
ul. Wiosenna 7, m. 8.

Цана нумару 50 гр.

Adres odbiorcy:

Komu ..............................

..............................

..............................

poczta..............................

..............................

Друкарня Я. Левіна
Вільня, Нямецкая 22

# СЬВЕТАЧ БЕЛАРУСІ

№ 1 (8)
Год 4-ты

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**Вільня, Антокаль, Вясеньняя 7-8.**

Чэрвень 1933 г.

# АДОЗВА.

У кастрычніку 1932 г. на паседжаньні Сьв. Сыноду разглядалася пытаньне аб спосабе навучаньня праваслаўных дзяцей Закону Божаму. У выніку гэтага разгляду была вынесена адпаведная рэзалюцыя, у якой, між іншым, гаворыцца, каб... *„навучаньне Закону Божага, згодна існуючых законаў і загадаў, паўсюдна вялося ў мове роднай вучняў, на жаданьне, выказанае іх бацькамі“.* Гэта значыць, што, згодна з існуючымі законамі, дзеці беларускіх вёсак могуць і павінны Закон Божы і асноўныя палажэньні Праваслаўнае веры, вучыць у школах у мове беларускай, мове сваіх бацькоў.

Дзеля таго, што верныя Праваслаўнай Царквы ў Польшчы складаюцца ня толькі з беларусаў, але з грамадзян і іншых нацыянальнасьцяў, бацькі дзяцей паасобных школаў павінны самі зажадаць тую ці іншую мову. *Беларусы, як абсолютная большасьць жыхараў гэных зямель, павінны дамагацца ад законавучыцеляў сваіх дзяцей, каб навучаньне Закону Божага адбывалася ў мове беларускай, мове найлепей зразумелай нашым дзецям, а ня ў мове расейскай ці польскай, як гэта часамі робіцца цяпер.*

Грамадзяне! Усе існуючыя сяньня беларускія грамадскія кірункі ці партыі, усе яны здаўна дабіваліся ад вышэйшых духоўных уладаў, каб нашы дзеці ў школах маглі вучыцца Закону Божаму ў мове беларускай. І сяньня гэтае права здабыта. Павінны толькі яшчэ раз самі бацькі зажадаць гэтага ад кожнага законавучыцеля. Такім чынам на вас, грамадзяне, лёг вялікі, перад вашымі дзяцьмі і будучыняй, абавязак завяршэньня таго, на што беларуская інтэлігенцыя паклала гэтульki высілкаў і ахвяр. Хай-жа неадкладным абавязкам кожнага будзе паведамленьне аб усім гэтым сваіх суседзяў і знаёмых, каб затым ад імя ўсяе грамады, ці то вусна, ці пісьменна, зажадаць ад законавучыцеля ўвядзеньня на свае лекцыі мовы бела-

рускай, згодна з вышэй успомненай пастановай Сьв. Сыноду і Канстытуцыі Польскае Рэспублікі.

Грамадзяне! Сяньня ў Мітраполіі і ў Кіраўніцтве Віл. Эпархіі разглядаюцца наагул справы Царквы на нашых землях. Вось-жа, каб дабіцца зьмены ўсіх неправідловасьцяў сучаснага царкоўнага сужыцьця духавенства з народам, мы павінны даказаць, што мы маем свае натуральныя правы, як і ўсе іншыя людзі. Сяньня мы маем магчымасьць шляхам легальным даказаць усё гэта—агульна-народным дамаганьнем беларускае мовы пры навучаньні Закону Божага. Ад таго, як мы гэны грамадскі абавязак выканаем, залежыць і далейшая наша будучыня, лёс нашых дзяцей. Калечыць сваіх дзяцей, моўчкі дазволіць гэта рабіць бацькі не павінны і ня маюць права, інакш тыя самыя дзеці ў будучыне за сваё калецства ў першую чаргу абвінавацяць сваіх бацькоў.

Грамадзяне! Неадкладна і сумленна спаўняйце заклік нашае адозвы, паведамляйце і змушайце да гэтага іншых грамадзян. У выпадку-ж не задаваленьня вашых просьбаў законавучыцелямі, або наагул рабленьне перашкодаў вашым захадам, зараз-жа аб усім гэтым паведамляйце беларускія арганізацыі і прэсу, складайце пратэсты.

**Прэзыдыюм Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту.**

Вільня, 10 красавіка 1933 г.

# Роля і заданьні Ц. Б. П. К.

Адным з прынцыповых заданьняў Ц. Б. П. К. (*Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту*) было і ёсьць — паглыбленьне і ўзмацаваньне рэлігійнае сьведамасьці праваслаўнага беларуса. Як канечны варунак сапраўднага і поўнага зьдзейсьненьня гэных намераў, лічыцца акцыя беларусізацыі Царквы, акцыя, якая абыймае сабой, не закранаючы мовы літургічнай, беларусізацыю царкоўнага жыцьця, беларусізацыю кадраў сельскага духавенства, тутэйшага кіраўнічага апарату і іх сужыцьцё з народам. Шляхі, якімі ішоў Ц. Б. П. К. да правядзеньня ў жыцьцё вышэй сказанага, могуць быць разгляданы разнаяка. Могуць яны быць, з зразуменьнем абставінаў, ацэнены, могуць быць і асуджаны. Аднак, гаворачы аб выпаўненьні Ц. Б. П. К. сваіх заданьняў, прыходзіцца, калі стаць на грунт об'ектывізму, сказаць — заданьні свае дагэтулюшняй працай Камітэт выканаў зусім добра, вынікі гэнае працы відавочны. Некалькі прыкладаў. Да заснаваньня Ц. Б. П. К. справа царкоўна-рэлігійная, справа жыцьця праваслаўных беларусаў калі час ад часу і парушалася ў грамадзянстве, калі па гэтаму пытаньню і забіраліся галасы, то было ўсё гэта аднак зьявішчам даволі абмежаванага, не сыстэматычнага і не праграмовага характару. З хвілінаю распачацьця працаў Ц. Б. П. К., справа жыцьця царкоўнага ў Зах. Беларусі паста-

вілася, як адно з найістотнейшых пытаньняў, на forum агульна беларускі. Над яго разьвязаньнем пачалі сыстэматычна працаваць усе беларускія грамадскія кірункі. Праўда, разьвязаньне гэнае кожны ўяўляў па свойму, аднак за падставу ўсяго былі прыняты галоўныя постуляты Ц. Б. П. К.. Справай царкоўнай пачынаюць цікавіцца нават адзінкі з т. зв. беларускага санацыйнага блёку, дагэтуль, а нават і да сяньня моцна заангажаваныя ў акцыі распашыраючай ідэі атэізму. Чым-жа тут хваліцца—могуць паўстаць закіды? А хоць-бы і тым, што народныя масы, дзякуючы працы Ц. Б. П. К. зацікавіўшыся справай рэлігійнай вельмі моцна, змусілі ўспомненыя адзінкі, каб ня быць адарванымі ад масаў, справу Царквы бараніць, аб недамаганьнях жыцьця царкоўнага забіраць голас публічна, хоць можа і няшчыра. Калі раней у іх прэсе («Наперад!») гаварыць аб Царкве ня было можна, бо п. Луцкевіч лічыў, што наагул Царкву трэба адлучыць ад дзяржавы, ад школы і т. д., што аб Царкве «не выпадае» гаварыць у часопісі XX в., то пазьней ужо іх газэты аб справах царкоўных штораз часьцей гавораць, а нават выдаецца спэцыяльны орган «Голас Прав. Беларуса», а нават ужо п. Луцкевіча і яго прыдворных можна было ўбачыць і ў царкве. А п. Астроўскі нават едзе дэлегацыяй аж у Варшаву да мітр. Дзяніса, дзе выстаўляе свае постуляты, выстаўляе сваіх кандыдатаў у Віл. Кансысторыю (і сяньня адзін з іх сапраўды ўваходзіць туды), нялічачы ўжо цэлага шэргу пісьменных дакладаў, перасланых у Варшаву ад свайго імя і сваіх аднадумцаў. Ясна, у шчырасьць гэных людзей, пакліканых зароўна да бурэньня і праваслаўнага, і беларускага высілку, верыць ня прыходзіцца, аднак тое ўжо павінна цешыць кожнага хрысьціяніна, што гэныя адзінкі хоць і ня шчыра але мусяць працаваць дзеля зьвялічэньня славы Хрыста.

Калі-ж зьвернем сваю ўвагу на іншыя бел. грамадзкая кірункі, то ў першую чаргу бачым, што Б. Х. Д. (Бел. Хрысьц. Дэмакратыя) пытаньнем царкоўным пачынае цікавіцца больш глыбака. Складае мэморыялы Дух. Уладам, на сваіх зьездах (13. XII. 31) выносіць цэлыя рэзалюцыі, па гэнаму пытаньню, утварае нават пры Б. Х. Д.—Праваслаўную Фракцыю, якая выдае ўжо і свой орган («Царква і Народ»), ня лічачы ўжо частых артыкулаў у гэнай плошчы ў «Бел. Крыніцы». А ўсяго гэтага да закладзінаў Камітэту мы нябачылі, калі не цалком, то ня з гэткім шырокім уняцьцем справы. Мы бачым, што моладзь студэнская арганізуець «Бел. Прав. Групу Студэнтаў У. С. Б.», моладзь нястудэнская — «Хаўрус Бел. Прав. Моладзі». Чуем ужо і пра Сябрыны Работнікаў правасл., пра Аб'еднаньне Прыходскіх Групаў Прав. Беларусаў і т. д. У Варшаве на Студыюм Прав. Тэалёгіі студэнты беларусы гэта ўжо зусім сьвядомая свайго назначэньня грамада, актыўнасьць якой штораз зьвялічваецца. Народныя масы справу беларусізацыі Царквы пераймаюць у свае рукі, вымагаюць ад духавенства пропаведзяў у мове беларускай, дамагаюцца сваіх духаўнікоў, забіраюць голас у гэтай справе на старонках беларускае прэсы, дзейна і скваплíва пашыраюць выданьні зьместу рэлігійнага. Гэтулькі, у кароткіх і агульніковых рысах, новых праяваў мы можам бачыць у асяродзьдзі беларускім. Ня менш цікавыя праявы мы ўбачым і з боку духавенства. Арх. Хвядос, паміма свайго слаўнага «никаких белоруссов нет!», змушаны ўжо ёсьць адведываць Беларускую Гімназію, шчыра ці ня шчыра ахвяраваць на незаможных вучняў некалькі залатовак, змушаны заяўляць аб сваёй прыхільнасьці да беларусаў. Цэлы шэраг духаўнікоў з яго акружэньня пачынаюць кожнага спатканага запэўніць аб сваёй беларускасьці (архім. Саваці і інш.), пачынаюць вывучываць беларускую літэратуру і мову (сьв. Уладз. Беляеў). Зьезды благачынных (люты 1933 г.) высказываюцца на карысьць увядзеньня беларускае мовы ў пропаведзях, на што згаджаецца нават і сам Арх. Хвядос. Рэктар Дух. Сэмінарыі прат. Тучэмскі ўжо высказваецца супроць расейскае мовы, і мы бачым, што яна ўжо лічыцца ў сэмінарыі не абавязкавай. І тут яшчэ шчырасьці

мала, але за тое паказальна! У Віл. Кансысторыю праводзяцца кандыдаты ад беларусаў (прат. Грамацкі і прат. Кульчыцкі). Палова сельскага духавенства ў пропаведзях карыстаецца мовай беларускай. Беларускі элемэнт часткова ўжо займае належнае мейсца і ў іншых эпархіях (Пінская, Горадзенская). Праўда, усе гэныя праявы з гэтага боку вельмі яшчэ бледны, але ўжо аднак вельмі паказальны. Духавенства змушана лічыцца з стыхіяй беларускай, змушана прызнаць яе існаваньне. Вось-жа заслуга ў гэтым ляжыць перадусім на Ц. Б. П. К., які проста непасільным сабе высілкам скрануў праваслаўна-беларускае сэрца народных масаў, даў яму жыцьцятворчы імпульс у гэтым кірунку. Словам Камітэт быў тым штурхачом, які збудзіў народныя масы з летаргу, якія ўжо ў свой чарод, змусілі да працы больш актыўнай на ніве царкоўнай грамадзянства шчыра царкоўнае, а нават ужо людзей і ня вельмі царкоўных, змусілі ўрэшце духавенства і гіерархію прызнаць беларусаў іісьці да іх з словам ісьціны Хрыстовай, а не рабіць з Царквы мейсца палітычнае прапаганды. Мы згаджаемся, што гэта яшчэ толькі першыя, кволыя крокі дзіцяці. Але трэба быць пэўным, што раз скранутая стыхія, скранутая шляхам законаў Хрыстовых на поўдарозе ўжо не затрымаецца. Завяршэньне распачатага гэта ўжо толькі квэстыя часу.

Рэзумуючы ўсё вышэй сказанае, прыходзіцца сьцьвердзіць, што роля Ц. Б. П. К. дагэтуль выпаўнена здавальняюча. Заданьні Камітэту няўпынна рэалізуюцца, знайшлі жывы адгалос у гушчах народных. Гэта-ж усё сьведчыць аб тым, што праца Камітэту ня была бясплоднай і дэструкцыйнай, але карыснай і неабходнай. Гэта-ж з свайго боку ўскладае на Камітэт абавязак распачатае прадаўжаць. Зьмена можа быць толькі тая, што замест імпульса, якім быў дагэтуль Ц. Б. П. К. павінен ён стацца цяпер павадыром, павінен стацца насьбітом агульна беларускага імкненьня да праўдаў Хрыстовых. Над усімі пагрозамі, „внушеніями“ ды „соображеніями” прайсьці спакойна і здэцыдавана, маючы на ўвеце тое, што праўду праклёнам не застрашыш, што праўда абапёртая на народныя масы заўсёды перамагае, тым больш праўда адвечная, дадзеная расьпятым Хрыстом.

Горадня, 1933 г. **Мікола Антанюк.**

# Сумныя вынікі.

Па нацыянальнасьці вернікі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы складаюцца ў большасьці з беларусаў і ўкраінцаў. У большых местах ёсьць крыху расейцаў і палякаў. У нас, у Заходняй Беларусі, палякаў праваслаўных амаль што няма.

Праваслаўная Царква ў Польшчы, як спадчыну па Расеі, атрымала расейскую праваслаўную гіерархію і духавенства, якія яшчэ дагэтуль захавалі чыста расейскую ідэолёгію, для якіх ідэолёгія іх пасомых, з іх лятуценьнямі зьяўляецца незразумелай. Гэтая непадгатаванасьць духавенства да новых злажыўшыхся варункаў жыцьця падзяліла пастыраў і паству на два зусім чужых, і нават варожых адзін другому лагеры.

Расейская рэвалюцыя ахапіла і нашу старонку. Як трагічны вынік гэтай рэвалюцыі — бальшавізм, які хоць і нядоўга трываў на нашых абшарах, але пасьпеў запусьціць у беларускую вёску карані бязбожжа і няверра. Першым заданьнем духавенства, духоўных пастыраў народу, зрабілася апанаваць настроямі масаў, падпарадкаваць іх свайму ўплыву, стлуміць атэізм у яго зародзішчы, і вярнуць народ да Бога. Калі-б пастыр быў сынам свайго народу, калі-б быў яму блізкім, а не чужаком, калі-б замест чужой народу расейскай ідэолёгіі панёс бы ў народ сьведамасьць, будзіў бы ў ім лятуценьні да

вышэйшых нацыянальных ідэалаў, то такі духаўнік стаў бы ня толькі духоўным пастырам народу, але быў бы духовым яго правадыром. З такімі духаўнікамі Сьв. Праваслаўная Вера ў нас на Беларусі была-б непарушымай, і ніякія варожыя сілы ня былі-б ёй страшнымі. Можа-бы так і было, бо сталая сувязь з народам і жыцьцёвыя варункі змусілі-б духаўнікоў падыйсьці бліжэй да народу, парадніцца з ім духова. *На перашкодзе гэтаму стала гіерархія.* Гіерархія стаіць далёка ад народу. Верная традыцыям расейскага духавенства, нашая гіерархія, з самага пачатку свайго існаваньня ў Польшчы, шукала апоры і падтрыманьня ў блізкай ім па ідэолёгіі расейскай эміграцыі, з якой і злажылася бліжэйшае іх акружэньне, якое ясна мае найбольшы ўплыў на нашых гіерархаў, і гэтым самым накрэсьлівае шлях кіраваньня імі эпархіямі.

Да вайны ў Расеі ў Праваслаўнай Царкве панаваў цэзарапапізм, і ў яго межах абсалютная аўтакратыя гіерархіі. Гэтыя традыцыі Расейскай Царквы разам з расейскай гіерархіяй перайшлі і ў Праваслаўную Царкву ў Польшчы. Паказная лёйяльнасьць у адносінах да Польскай Дзяржавы, якая з—за асабістага дабрабыту нашых гіерархаў пераходзіць у *звычайную ўгодлівасьць іх,* дала ім магчымасьці захаваць у Царкве абсолютную аўтакратыю, якою яны карыстаюцца, каб зьнішчыць у падпарадкаваным ім духавенсьцве ўсялякую праяву беларускасьці. Зусім зразумелыя лятуценьні сельскага духавенства бліжэй зжыцца з народам, чы інакш гаворучы — зьбеларушчыцца, нясе за сабою пагрозу кары з боку духоўнае ўлады. Такі стан рэчаў стварыў трагэдыю для сельскага духавенства.

Калі сьвяшчэньнік будзе паслухняным агентам сваей духоўнай ўлады, то ён будзе кепска жыць з народам. Тады на такога духаўніка ідуць скаргі ў кансысторыю, а бывалі выпадкі, што прыходжане такога „бацюшку“ ня пушчалі ў Царкву. Кансысторыя, як „неисправнага“ і „неуживчиваго“ пачынае перакідаць з прыхода на прыход і гэтым дашчэнту руйнуе матар'яльны быт сьвяшчэньніка.

Калі сьвяшчэньнік жыве добра з народам, падыходзіць да яго духова, пачынае беларушчыцца—зараз у эпархію ідзе данясеньне ад благачыннага аб „крамоле“ такога сьвяшчэньніка і пачынаецца „гоненіе“ на „крамольніка“. Паміж беларускімі праваслаўнымі арганізацыямі і духоўнай уладай ідзе сталая барацьба, і яны маюць магчымасьць толькі маральна падтрымаць такога «гонимаго».

Сьвяшчэньнік змушаны шукаць падтрыманьня, як бы ў „нейтральнага“ дзейніка, у ўрадовых колах.

Гэтым толькі і можна вытлумачыць, што шмат сьвяшчэньнікаў прымкнулі да некататорых польскіх палітычных угрупаваньняў, і нават чынна ў іх працуюць: бо гэта для іх звычайная асэкурацыя ад аўтакратыі духоўнай улады.

Угодлівасьць нашай гіерархіі і слабасьць сельскага духавенства, якое змушана шукаць апоры ў урадовага дзейніка, стварыла сярод польскага грамадзянства ідэю *„польскага праваслаўя“.* Польская прэса, асабліва Віленскае „Słowo“, ў апошні час адкрыта выступала проціў беларусізацыі духавенства і беларусізацыі Праваслаўнае Царквы, прапануючы цяперашні „status quo“, які, па пераконаньню газэты. павінен прывесьці да палянізацыі праваслаўнага духавенства.

Пры гэтым выстаўляецца аргумэнт, што ў украінцаў і літоўцаў „закрыстыя“ адыграла вялізарную ролю ў адраджэньні гэных народаў. Праўда, пры гэтым газэта зусім нэгуе факт, што 300 гадовае панаваньне Польшчы і больш 100 гадовае панаваньне Расеі не змаглі здэнацыналізаваць беларускі народ. У апошні час сьведамасьць беларускага народу моцна ўзрасла, але разам узрасла і рэлігійная індэфэрэнтнасьць, як вынік прапаганды ўльтра-сацыяльных элемэнтаў. Так што, нават з пункту гледжаньня чыста польскага, лепш, каб сьведамасьць у народзе зашчаплялася духавенствам, якое па свёй кансэрватыўнасьці стаіць за захаваньне цяперашняга сацыяльнага ладу. І газеце „Sło-

wo", як органу польскіх кансэрватыстаў, аб гэтым належала-б ведаць.

Урадовыя колы *афіцыяльна* да ідэі беларусізацыі праваслаўнага духавенства адносяцца прыхільна, аднак, як мы відзім, у урадовай Віленскай духоўнай сэмінарыі навука выкладаецца ў мове польскай, хаця ж, на камісіях прадсаборчага сабраньня, пры *ўдзеле прадстаўнікоў ураду*, і выносяцца пастановы, каб выкладовай мовай ў Віленскай духоўнай сэмінарыі была мова беларуская. Тое самае можна сказаць і аб выкладовай мове рэлігіі: ня гледзячы на ўсе ўказы мітраполіі, каб рэлігія выкладалася ў мове матчынай, гэта значыць у нас на Беларусі па беларуску, да гэтай пары рэлігія выкладалася па расейску, дзякуючы расейскім тэндэнцыям нашых гіерархаў, якія абыходзяць гэныя ўказы. Урадовы дзейнік з свайго боку прапануе выкладаньне рэлігі ў мове польскай, зазначаючы, што мова „тутэйшая" —мова някультурная, і на выкладаньне рэлігіі не надаецца.

Гэтак расейская ідэолёгія нашай гіерархіі і яе аўтакратыя выклікалі адчужанасьць духавенства ад народу і падгатавалі грунт для палянізацыі духавенства, гэтым самым—палянізацыі Праваслаўнае Царквы. Непаразуменьні, якія паўстаюць на нацыянальным груньце паміж духоўнай уладай а беларускім царкоўным элемэнтам, уносяць у царкоўнае жыцьцё смуту і разруху і гэтым самым узмацняюць значэньне і ўплывы ў жыцьці Царквы трэцьцяга элемэнту, і ідэя „Польскага Праваслаўя" узмацняецца.

Дагэтуль нашая Царква была адзіным асяродзішчам культурнага жыцьця народу, дзе палянізацыя немагла знайсьці для сябе грунту.

Гэты грунт падгатавала і ўзмацавала нашая духоўная ўлада.

Для нас беларусаў Праваслаўная Царква гэта наш нацыянальны скарб. Праваслаўнае беларускае грамадзянства павінна аб'еднана і салідарна выступіць у абарону сваёй сьв. Праваслаўнай Веры, памятуючы, што не расейскае і ня польскае, а толькі каѳолічэскае Праваслаўе на Беларусі можа захавацца сярод беларускага народу. Праваслаўная беларуская грамадзянства павінна ня толькі падтрымаць барацьбітоў за ідэю каѳолічэскага Праваслаўя на нашай бацькаўшчыне, але скіраваць усе высілкі народу і інтэлігэнцыі на захаваньне гэнага нашага нацыянальнага скарбу.

**У. Б.**

# Трагэдыя сельскага духавенства.

Пішучы гэты артыкул, маем на ўвазе тую частку сельскага духавенства, якая, ня крыўляючы душой і сумленьнем, хацела-бы чэсна выканаць свой пастырскі абавязак, сваё вялікае назначэньне насьбіта Хрыстовых ідэалаў. Вось-жа, трагэдыя гэнае часткі духавенства і палягае на тым, што створаныя абставіны якраз не дазваляюць быць сапраўдным пастырам.

Масы народныя, дзякуючы шматлікім і рознаякім уплывам, пераважна варожым Царкве, адносяцца да духавенства з засьцярогамі, а нават часта зусім безпадстаўна, і няпрыхільна. Ад сьвяшчэньніка вымагаецца і добрае сужыцьцё з народам, разуменьне яго патрэбаў, а таксама вымагаецца і дармовае служэньне трэбаў, у лепшым выпадку за бязвартасныя грашы; на выпадак якога няшчасьця ў сялянскай хаце, па ратунак ідзецца да сьвяшчэньніка, бо-ж у вачох народу сьвяшчэньнік матэрыяльна лічыцца лепш забясьпечаным. Словам, ад сьвяшчэньніка вымагаецца ўтрая больш чымся ад іншага сьмяротнага, на сьвяшчэньніка ўскладаецца ўсё тое, чаго не хапае таму ці іншаму. І толькі пры наліччы ўсяго гэтага, масы народныя напалову з бядой набіраюць нейкага перакананьня, што такі сьвяшчэньнік добры пастыр. І дапусьцім цяпер, што такі сьвяшчэньнік знайшоўся. За трэбы нічога не бярэць,

хіба тое толькі, хто сам што дабрахвоць дасьць, у бядзе кожнаму дапамагае, ці то грашамі, ці натурай, за ўсе робленыя яму крыўды прабачае, з народам жыве згодна, словам поўная ідылія. Народ задаволены сваім сьвяшчэньнікам, сьвяшчэньнік народам, Царква за кожнай службай перапоўнена і т. д. Але вось, ідылія гэна хутка ператвараецца ў трагэдыю.

Зазвычай сямья сьвяшчэньніка даволі вялікая. Пакінуць сваіх дзяцей без навукі для сьвяшчэньніка ніяк не выпадае. Ізноў-жа, вучыць пры сяньняшніх варунках, гэта знача аддаць на дзяцей і месячную датацыю, і вучыцельскія, і сабраныя грашы за трэбы ды плюс да гэтага яшчэ столькі сама, ужо дзе колечы дапазычанага. А апрача-ж гэтага трэба яшчэ аплаціць і благачыннаму на канцэлярыю, на яго разьезды, кансысторскія і дзяржаўныя падаткі, часта псаломшчыку на памешканьне, за „Воскресное Чтеніе“, за некалькі экзэмпляраў „Слова“, за мітрапалітальнае віно, сьвечкі, ладан, абразкі, мэдалікі, календары, ноты і г. д. (што трэба купляць пад прымусам і ўдвая даражэй чымся ў прыватных крамах), за тым плаці на ўдоў і сіротаў па памершых сьвяшчэньніках, у эмэрытальную касу, на розныя ахвяры, адбудуй страху ў царкве або ўласнай хаце, а тут яшчэ хто хворы—плаці доктара і шпіталь, словам плаці, плаці і плаці. Праўда, некаторыя з пералічаных пазыцыяў прысылаюцца быццам на рахунак Царквы, але няшчасьце, што на рахунку Царквы віднеюцца адны даўгі, у лепшым выпадку грашы, даслоўна грашы. І вось хочучы-ня-хочучы прыходзіцца плаціць сьвяшчэньніку з сваіх грошаў, бо-ж (напрыклад!) арх. Хвядос сваім указам загразіў, што калі хто неаплаціць падаткаў, будзе перамешчаны на горшы прыход і неатрымае наградаў. Мала гэтага, за добрае сужыцьцё з народам сьвяшчэньнік як „неблагонадёжный“, як страціўшы даверра ў „ревнителей русской вѣры“, трапляе ў няміласьць благачыннаму, кансысторыі, прыдворнай камарыльлі, і т. д. Каб-жа вярнуць страчаную ласку (інакш загоняць у „казіны рог“) трэба ізноў-жа... вылажыць грошы. Мала таго, трэба ад народу, ад беларускае інтэлігэнцыі адыйсьціся, стацца піанэрам „русской вѣры“. Гэта-ж у свой чарод масы народныя дражніць, адганяе іх ад Царквы і сьвяшчэньніка. Мы бачым, гэны апошні апынаецца адарваным і чужым сярод варожай яму стыхіі. І вось, з тае ідыліі паўстае трагэдыя. Інстынкт жыцьця перамагае ўсё. Пастыр паміма сваёй волі робіцца сэквэстратарам, пачынае крывіць душой і сумленьнем, ідзе па ратунак да ўладаў сьвецкіх, ад уладаў адміністрацыйных прыймае на сябе абавязкі сану духаўніка не адпавядаючыя. Словам, сьвяшчэньнік, каб жыць, хоць неяк жыць, каб аплаціць бязконцыя процьмы падаткаў, каб абараніцца і перад сваім начальствам і народам, натрауленым на яго, такі сьвяшчэньнік перастае быць пастырам, хоць фармальна ім і лічыцца, але фактычна ім ужо ня ёсьць. Трагэдыю гэтага ўсяго заканчывае чарка „пацехі“. Вынік—поўная дэмаралізацыя пасомага і пасомых, і што трагічней, паміма іх волі.

Шукаючы прычынаў гэнае трагэдыі, прыходзіцца сьцьвердзіць перадусім дзьве: першая, непамернае абцяжаньне сельскага духавенства рознымі падаткамі і аплатамі, па другое, гэта ніяк незразумелая палітычная ігра нашых гіерархаў, уводзячых на ўлоньне Царквы варожыя ёй духу палітычныя антаганізмы, якія з усей сілай у першую чаргу абрушаюцца якраз на сельскае духавенства. Дзякуючы гэтым прычынам мы і бачым тыя вялікія і крыўдныя несправядлівасьці, калі сельскае духавенства выбіваецца ўжо з сілаў, бьецца як рыба аб лёд, часта астаецца бяз хлеба, дзяцей пакідае без асьветы, а ў той час гіерархі разьяжджаюць па мільянэрскім курортам, выстаўляюць сабе дамы, утрымліваюцца цэлыя штабы прыдворных, выдаюцца дзесяткі тысяч злотых на розныя, зусім непатрэбныя „Словы“, падтрымліваюцца розныя „Нашы жизни“, ладзяцца пратэсты супроць нялюбых адзінак, і г. д.

Рэасумуючы, прыходзіцца сказаць, што трагэдыя сельскага духавенства-

яго пот і сьлёзы, учыненая яму вялікая крыўда, ляжаць цёмнаю плямаю на сумленьні тых, хто гэную трагэдыю і крыўду павінен быў і мог-бы аблягчыць, а хто гэтага незрабіў. Далей—трагэдыя сельскага духавенства павінна неадкладна быць разгледжанай і спыненай, інакш расклад і дэмаралізацыя разьядуць арганізм жыцьця царкоўнага дашчэнту. Час са зьдзірствам і палітыкай скончыць!

**Братчык.**

# Гісторыя, якіх шмат.

„Воскресное Чтеніе" № 7 за 1933 г. Распоряженія и извѣстія по Полѣсской епархіи за декабрь 1932 г. Административныя взысканія.

4) Настоятелю Удрицкой церкви 1 округа Столинскаго уѣзда, священнику Іоанну Пыжевичу, *за легкомысленное отношеніе къ іерейскому слову,* объявленъ строгій выговор со внесеніемъ въ послужной списокъ».

З Палескай эпархіі да Віленскай быў у свой час перамешчаны сьвяшчэньнік а. Тодар Сеглюк. Перамяшчэньне адбылося па загаду арх. Аляксандра, замяшчаўшага ў часе вотпуску арх. Хвядоса.

Арх. Хвядос, калі вярнуўся з вотпуску, то ў першую чаргу адмяніў ўсе загады арх. Аляксандра.—А. Сеглюк, як трапіўшы ў эпархію бяз ведама арх. Хвядоса, апошнім ня быў зацьверджаны і адразу стаўся... безработным. Аднак інтэрвэнцыя Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту асягнула ў арх. Хвядоса назначэньне а. Сеглюка на прыход.

А. Тодар Сеглюк—духаўнік па прызваньню, трапіўшы на прыход ў якім перад ім быў настаяцелем а. Стаднікаў, узяўся адразу за працу. У прыходзе панавала п'янства, распушчанасьць, і таму а. Сеглюку прыйшлося шмат дalaжыць сваей працы, каб хоць крыху упарадкаваць прыход. Ясна, з гэтае прычыны знайшлася жменька незадаволяных дзеяльнасьцю а. Сеглюка, і ў эпархію пасыпаліся скаргі. Сьледства духоўнай ўлады, ў справе гэтых скаргаў, выявіла поўную нявіннасьць а. Сеглюка, а благачынны а. А. Сурвілла даў аб ім найлепшую апінію.

Але вось трэба было даць мейсца сьвяш. Савіцкаму, брат якога ў добрай камітыве з кансысторскімі дзеячамі. І а. Сеглюка для „пользы службы"перамяшчаюць з прыхода на філію ў Кабыльнікі, дзе сямейнаму сьвяшчэньніку пражыць нельга.

А. Сеглюк беларус—значыць „крамольнік", з пункту гледжаньня нашай духоўнай ўлады, а таму няма падставаў з ім і цэрамоніцца.

А. Сеглюк зьвярнуўся да Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту з просьбай аб інтарвэнцыі за яго перад арх. Хвядосам і духоўнай кансысторыяй.

Даведаўшыся, што ў Віленскай эпархіі асвабадзіўся пасьля сьмерці сьвяшч. Малевіча прыход Ганчары, прадстаўнікі Ц. Б. П. К. зьвярнуліся да арх. Хвядоса з просьбаю аб назначэньні ў Ганчары а. Сеглюка. Арх. Хвядос на просьбу прадстаўнікоў Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту згадзіўся і прасіў прыслаць да яго а. Сеглюка. Якраз на той час а. Сеглюк выехаў з Вільні на прыход ў Кабыльнікі, ня хочучы дзеля сваіх асабістых справаў пакідаць прыхаджан бяз Службы Божай, бо гэта было якраз перад сьвятам.

Ц. Б. П. К., маючы згоду арх. Хвядоса на перамяшчэньне а. Сеглюка ў Ганчары, паведаміў аб гэтым яго і а. благачыннага Сурвіллу і прасіў, ня трацячы часу, прыехаць ў Вільню дзеля выпаўненьня неабходных фармальнасьцяў, зьвязаных з новым назначэньнем.

Але за гэты час арх. Хвядос пасьпеў зьмяніць сваю пастанову.

Арх. Хвядос здэцыдаваўся раптам

аддаць прыход Ганчары будучаму мужу дачкі а. Малевіча, хоць жа дачка а. Малевіча надта яшчэ маладая, жаніха нават і ў праекце ня мела.

І калі ўжо цяпер а. Сеглюк прыехаў, то арх. Хвядос ня прыняў яго, а праз свайго келейніка ў назначэньні яго ў Ганчары адмовіў.

Гэтак, арх. Хвядос назначае на прыход будучага мужа дачкі а. Малевіча, якога ні яна сама, ні арх. Хвядос ня ведаюць. Ці гэты будучы муж будзе адпавядаць варункам, якія вымагаюцца ад духаўніка і духоўнага пастыра, гэтым арх. Хвядос ня цікавіцца.

У даваеннай Расеі такія традыцыі існавалі, і арх. Хвядос, як верны традыцыям царскай Расеі, ня лічыцца ні з цяперашняй сытуацыяй нашай Царквы, ні з вымаганьнямі сяньняшняга дня. Катастрафальнае палажэньне Праваслаўнае Царквы ў Заходняй Беларусі патрабуе ідэйных духаўнікоў, шчыра адданых свайму прызваньню. Ці-ж можа быць ідэйным сьвяшчэньнікам той, хто сабою гандлюе і за гатовы прыход прадаецца незнаёмай яму дзяўчыне?

Тут нават няма мовы аб звычайнай, ўжо т. зв. „нравственности". Гэтую „сделку" арх. Хвядос ня толькі апрабуе, але нават дапамагае ёй, факт той, што крэўныя нябожчыка а. Малевіча расейцы, значыць і будучы прэтэндэнт па руку Малевічанкі таксама праўдападобна будзе расеец і, па пераконаньням арх. Хвядоса, прыход будзе знаходзіцца ў „надеждных руках" і беларуская „крамола" там не завядзецца.

Абураныя такім паступкам арх. Хвядоса прадстаўнікі Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту апэлявалі да Мітраполіі і ўсіх правячых архіерэяў у Заходняй Беларусі. Ёсьць уражаньне, што гэта дапамагло.

У цэлай гэтай гісторыі асабліва яскрава праходзіць тая *легкасьць* з якой арх. Хвядос адносіцца *да дадзенага ім слова*, і тым балей, калі гэнае *слова* даецца *беларусам*, то арх. Хвядос ня лічыць сваім абавязкам яго *датрымаць*. Добры прыклад падае архіпастыр сваім падуладным і пасомым!

Ня менш цікавы ў гэнай справе пагляд арх. Хвядоса адносна назначэньня на прыходы. Нам здаецца, што Архіпастыр не павінен, у сягоняшнія цяжкія для Царквы часы, папулярызаваць і санкцыянаваць гандаль прыходамі.

**В.**

# НАГРАДЫ.

Перад намі ляжаць №№ 16 і 18 «Воскреснага Чтения», скуль даведываемся, што з нагоды Вялікадня атрымалі награды з нашае эпархіі наступныя адзінкі:—мітру атрымаў прат. Клопскі, залаты наперсны хрэст з упрыгожаньнем—прат. Тучэмскі; prataіерэяў—сьв. Баталін, сьв. А. Маеўскі, сьв. І. Спрогіс, сьв. У. Балай, сьв. Владімірскі; залаты наперсны хрэст—сьв. Л. Савіцкі, сьв. У. Цытовіч, сьв. Ул. Роўда; набедреньнік — сьв. Д. Сурвілла і т. д. Мы пытаем, за што гэныя людзі атрымалі награды? Ці можа за тое, што бадай аб кожным з іх пісалася амаль ува ўсіх беларускіх газэтах, а нават і польскіх, і пісалася ў сэнсе вельмі нэгатыўным? Ці можа за тое, што гэтыя людзі ўмеюць безгранічна ненавідзець такіх-жа самых людзей, толькі гаворачых па-беларуску? Што, пытаем далей, зрабілі гэтыя людзі асаблівага перад сваімі пасомымі? Таму як на гэтыя награды паглядзяць верныя,як яны іх будуць інтэрпрэтаваць, якія ў іх вытварацца адносіны да Выш. Дух. Уладаў і паняцьці аб іх справядлівасьці? Што скажуць і як будуць чуцца тыя пастыры, якія выбіваюцца проста з сілаў, а аднак прэстыж Царквы нясуць высока і горда? Ці-ж гэтыя награды дададуць ім сілаў і ахвоты быць сапраўднымі пастырамі, цурацца кар'ершчыны і таргаваньня сумленьнем? Ці-ж гэтыя награды ня будуць „соблазном"?

Вось жменя пытаньняў, якія мы ставім нашым Дух. Уладам на ласкавы

разгляд. Мы ня просім публічнага адказу, афіцыяльнага адказу нам ня трэба, мы хочам толькі каб тыя, ад каго гэныя награды залежалі, на ўсе нашы запытаньні адказалі самы сабе, перад сваім сумленьнем. Бо хай паверацъ нам награджаючыя, што нам ня ходзіць у даным выпадку аб асабістасьці. Нас абыходзіць усё гэта з боку прынцыповага,— мы чуем боль і крыўду тых, хто ў сваю працу ўкладае сваё здароў'е, а прызнаньня за гэта не атрымоўвае. Мы чуем і тую гордую насьмешку тых, хто замест суровае кары атрымоўвае сяньньня награды. Вось гэта усё нам цяжыць, змушае нас публічна запытаць — за што гэтыя людзі атрымалі награды? Бо ня ўжо-ж гэтыя награды трэба лічыць як паказ, якімі шляхамі і мы павінны ісьці? Ня ўжо Выш. Дух. Улада і сапраўды хоча, каб мы пачалі насьледаваць тых, хто атрымаў сяньньня награды? Ня ўжо Выш. Дух. Улада іх паступкі апрабуе, а наградамі падкрэсьлівае іх вартасьць?

Ня хочацца ў гэта верыць, ня хочацца гэтага дапусьціць — аднак усё прамаўляе за тым. А калі так, дык якжа пасьля гэтага глянуць нам, сваім пасомым, у вочы, аб чым ім гаварыць цяпер у пропаведзі? **а. Б. і а. М.**

---

# Сьвята-Духавы Манастыр у Вільні.

Сьвята-Духавы Манастыр у Вільні мае сваё слаўнае прошлае. У працягу некалькіх вякоў Сьв. Духав. Манастыр зьяўляўся апораю сьв. Праваслаўя на землях б. Вялікага Беларуска-Літоўскага княжаства, веў змаганьне з агрэсыўнасьцю каталіцтва і палянізацыі. Веў ён шырокую рэлігійна-прасьветную і культурную працу, і ня гледзячы на ўсе прасьледаваньні з боку іншаверцаў, *захаваўся праваслаўным.* Праваслаўны беларускі народ, сазнаючы значэньне манастыра, нёс свае ахвяры яму, як абаронцу Сьв. Праваслаўя і народнасьці. Дамы, землі, якімі да гэтае пары ўладае Манастыр — гэта фундацыі беларускае шляхты і заможнага беларускага мяшчанства. І цяпер яшчэ Сьв. Духав. Манастыр зьяўляецца адным з багацейшых манастыроў на нашых землях.

У даны мамэнт Манастыр — гэта сяліба эпархіяльнага архіерэя арх. Хвядоса і духоўнай кансысторыі. Рэлігійна-культурнае працы Манастыр не вядзе, а таму і папулярнасьці сярод беларускага народу ня мае.

Братва Манастыра складаецца з некалькіх малаграматных манахаў, ня здольных ні да якае культурна-асьветнае працы. Настаяцелем Манастыра лічыцца арх. Хвядос, але ўзапраўды ўсім манастырскім жыцьцём кіруе яго намесьнік-архім. Саваці, *асоба без ніякае адукацыі, чалавек мала інтэлігэнтны.*

І вось у той час, калі Праваслаўю пагражае небясьпека з усіх бакоў, калі агрэсыўнасьць каталіцтва ўзрастае з кожным днём, калі індыфэрэнтнасьць і бязбожжа запанавалі сярод шырокіх масаў—Манастыр, згодна з традыцыяй свайго слаўнага прошлага, здавалася-б павінен быў бы ізноў стаць аплотам Сьв. Праваслаўя і бел. народнасьці. У той час, калі востра адчуваецца патрэба шырокай рэлігійна - культурнай працы, калі патрэбна місыянэрская дзеяльнасьць—манастырская ўлада ўпарта зачыняе дзьверы перад кожным інтэлігэнтным манахам; адзінага манаха з акадэміцкай адукацыяй трымае ў „чорным целе“; у манастыр набіраюцца ня пісьменныя безработныя, крэўныя ці знаёмыя таго ці іншага з манастырскай Улады.

Хоць-жа пры наліччы інтэлігэнтных сілаў Манастыр мог-бы ізноў адыграць вялікую ролю ў рэлігійным жыцьці нашага народу, мог-бы прыцягнуць у Манастыр інтэлігэнтныя беларускія сілы, шчыра адданыя Царкве і народу, мог-бы ўскрасіць сваю слаўную мінуўшчыну. Між тым сяньньня Сьв. Духав. Манастыр зьяўляецца асяродкам палітыкі, паралізуючай рэлігійнае жыцьцё ў нашым краі.

З муроў Сьвята-Духава Манастыра замест хрысьціянскае любові, плыве ненавісьць і пагарда да таго народу, дзякуючы ахвярам якога Манастыр і да гэтай пары мае сьродкі да жыцьця. З амвоны нашае старадаўняе сьвятыні сяньня ўжо не раздаюцца словы аб гаротным жыцьці нашага многапакутнага народу, за тое часта там можна пачуць аб харастве расейскае культуры, аб няшчасным «русском народе», аб яго «скором возрождені» і г. д.

Уся антыбеларуская акцыя, якая вядзецца ў Віленскай эпархіі, пачынаецца якраз у мурох Сьв. Дух. Манастыра, пры беспасярэднім удзеле арх. Хвядоса, архім. Савація, ды пры супрацоўніцтве такіх расейскіх рэакцыянэраў, як прат. Дзічкоўскі і іншыя, складаючыя бліжэйшае акружэньне арх. Хвядоса. Канчаючы, трэба сьцьвердзіць — жыцьцё вымагае інтэнсыўнай рэлігійна - культурнай працы сярод верных нашае эпархіі. Нідзе большага развалу рэлігійнага жыцьця, як у нас, у Віленскай эпархіі, няма. Бо нехапае тут сярод кіраўнікоў эпархіяльнага жыцьця людзей, шчыра адданых ідэі ўзмацаваньня Сьв. Праваслаўя, хоць-жа маем аж за вельмі актыўных палітыкаў, маючых на мэце зрусыфікаваць наш край. Беларускі народ мае права патрэбаваць, каб старадаўняя беларуская сьвятыня Сьв. Духаў Манастыр перастаў быць сялібаю расейскай рэакцыі, а скіраваў бы свае высілкі на рэлігійную працу на карысьць беларускага народу. Развал рэлігійнага жыцьця ў Віленскай эпархіі патрабуе таланлівых ідэйных прапаведнікаў, бо пропаведзь — гэта жывое слова да сэрца людзей, калі яна вядзецца таланлівым адухатвароным прапаведнікам у роднай мове, робіць цуды, праконвае самыя зацьвярдзелыя сэрцы і помыслы. Манах, адрокшыся ад міра і аддаўшыся служэньню Богу, беларус па паходжаньню, і інтэлігэнт па адукацыі, з сэрцам поўным любові да свайго меншага брата, з роднаю моваю на вуснах—самых закаранелых бязбожнікаў мог-бы вярнуць да Бога.

Нашая эпархія патрабуе добрай, рэлігійнага характару, у мове народу зразумелай, прэсы—і гэта павінна стаць справаю манастыра.

Павінен быць адчынены шырокі доступ беларускім культурным сілам ў манастыр, а палітыка «непраматнасьці» манахаў магла-б быць нарэшце зьліквідавана. Але прыток інтэлігэнтных сілаў змусіў бы архім. Савація зрэзыгнаваць з пасады намесьніка манастыра і заняць належнае яго адукацыі мейсца, ды і для арх. Хвядоса гэта таксама было-б непажаданым, бо можа прышлося-б шмат чым пастуніцца. І вось, з чыста асабістых пабудак кіраўнікоў манастырскаго жыцьця — Сьв. Духаў Манастыр у рэлігійным жыцьці эпархіі не адыгрывае ніякае ролі. Тое самае можна было-б сказаць і аб другіх манастырох на Беларусі, якія, дзякуючы тэндэнцыйнай палітыцэ настаяцеляў манастыроў, і апрабаты гэнай палітыкі з боку эпархіяльных уладаў, сайшлі на ступень звычайных прыходскіх цэркваў, абслужываемых манахамі, хоць-жа павінны былі-б быць рассаднікамі асьветы і культуры, ды быць цьвярдынямі Сьв. Праваслаўя на беларускіх землях.

Трэба думаць, што гісторыя, ані гэнага марнаваньня магчымасьцяў, ані культываваньня «русскаго православія» нашым кіраўнікам Царквы за дабро для яе не палічыць. **В......іч.**

# Юбілей і сапраўднасьць.

Сёлета мінаюць дваццатыя ўгодкі служэньня Блаж. Мітр. Дзяніса ў сане япіскапскім і дзесятыя ўгодкі працы на Мітрапалічым Пасадзе Прав. Аўтакэфальнае Царквы ў Польшчы. З нагоду гэных юбілеяў Уладыка Дзяніс выдаў Архіпастырскую адозву, былі зладжаны ўрачыстыя Акадэміі, прысьвечаны старонкі друкаванага слова і г. д. І мы, як верныя сыны, нашаму Высокаму Прад-

стаяцелю Сьв. Прав. Царквы ў Польшчы складаем на гэтым мейсцы свае шчырыя пажаданьні і прывітаньні, сваю ўдзячнасьць за ўсе высілкі дзеля абароны Сьв. Царквы. Складаем гэныя пажаданьні, хоць-жа Уладыка Мітрапаліт, у акружэньні невялічкай жменькі людзей, якія свой шавінізм і нехрысьціянскую нецярпімасьць паставілі вышэй дабра Царквы, — нас ня бачыць, нашых галасоў і просьбаў ужо колькі, колькі год ня чуе. Мы разумеем, што Уладыка Мітрапаліт адзін, а пасомых мільёны, што на ўсе просьбы адказаць і здаволіць іх адразу цяжка, што варожыя абставіны і людзі змусілі ўсе пачынаньні Уладыкі Дзяніса накіраваць шляхамі іншымі, непадобнымі шляхам сьв. пам. Мітр. Юрага, што варожыя сілы свае няхрысьціянскія ўчынкі прыкрылі канонам і правам і гэтым параліжуюць усе найлепшыя намеры Уладыкі, што ў гэным лабірынце паглядаў і просьбаў пасомых няведама каму верыць. Мы ўсё, гэта разумеем... Мы добра разумеем! Вось-жа таму можа Уладыка Мітрапаліт нас і ня бачыць, нас ня чуе... Тым больш, што найкрыкліўшыя, можа і больш сяньня аўторытатыўныя, 5% прывілеяваных вернікаў Прав. Царквы ў Польшчы, шумна і з размахам у дні юбілея запэўнілі Уладыку Мітрапаліта, што ўсё „обстоит благополучно“. Выражаючы шчырыя пажаданьні свае, мы аднак ліцамерыць фарысейскі ня можам. Ліцамерыць і маніць лёгка, але горкую праўду гаварыць у вочы цяжка і то вельмі цяжка. Аднак мы выбіраем гэнае апошняе, бо гэтага вымагае трагічная сапраўднасьць, аб якой у юбілейных пажаданьнях прамаўчалі.

Вось-жа складаючы свае прывітаньні, мы складаем і пажаданьні, зьместам якіх будзе нашае гарачае імкненьне дабра Царквы. Пажаданьні, каб новыя ўгодкі Уладыка Мітрапаліт азначыў зразуменьнем стыхіяў народных, перамогай над ворагамі сапраўднае Хрыстовае Царквы, распачынам новых шляхоў у жыцьці Прав. Царквы. Каб новыя ўгодкі былі пачаткам рэлігійнага ўздыму мільёнаў, *былі сьвятам мільённых грамадаў вернікаў,* вызнаючых сябе ўкраінцамі і беларусамі, каб гэныя новыя ўгодкі былі канцом несьвяточнага сьвята безнаказнае жменькі, якая ганьбіць Сьв. Царкву, добрае імя Уладыкі Дзяніса, чыніць гвалты і несправядлівасьці. Каб новыя ўгодкі *жывая сапраўднасьць*, а не рабалепныя вырахункі, Імя Уладыкі Дзяніса ўпісала залатымі літарамі ў гісторыю Царквы, у гісторыю жыцьця двух шматмільённых народаў.

„Ты выгубляеш ілжывых; крыважаднымі й круцелямі брыдзіцца Госпад“ (Пс. Дав. V, 7), чуем мы ў песьні і таму верым, што Хрыстос Расьпяты дапаможа нашаму Архіпастыру змагчы ілжу, крыважаднасьць і несправядлівасьць.

**Вернік.**

# Беларусь жыве!

Пятнаццаць гадоў таму назад Беларускі Народ, вуснамі сваіх прадстаўнікоў, абвесьціў усяму сьвету сваё права на самастойнае жыцьцё, абвесьціў сваю Незалежнасьць. І з гэнага часу дзень 25 сакавіка беларусы ўрачыста сьвяткуюць кожны год, падкрэсьліваючы гэтым сваю вернасьць і любоў найзаветнейшаму свайму ідэалу. Сёлета, дзякуючы адначаснаму сьвяткаваньню 15-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-ых угодкаў беларускае прэсы, урачыстасьць гэная адбылася з яшчэ вялікшым уздымам. Быў зладжаны адумысны Юбілейны Камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі ад Бел. Нацыянальнага Камітэту, Т-ва Бел. Школы, Бел. Студэнцкага Саюзу. Наагул у сьвяткаваньні гэтым прыняло ўдзел усё незалежнае і незалежніцкае грамадзянства. Урачыстасьць распачалася набажэнствам у касьцёле сьв. Міколы, які быў выпаў-

нены народам па берагі. Адпаведную да сьвята пропаведзь, гранітнымі словамі і з глыбокаю верай, сказаў кс. д-р Рэшаць. Затым адбылося набажэнства ў царкве Пятніцкай, якое зладзіла беларуска-польская санацыйная група. Набажэнства, якое мела адбыцца ў Прачысьценскім саборы, ладжанае там Юбілейным Камітэтам, не адбылося, а гэта дзякуючы нягоднаму (сану сьвяшчэньніка) паступку „слаўнага“ прат. Дзічкоўскага і яго спадручнага сьв. Беляева, як і наагул дзякуючы нашаму Дух. Начальству, якое можа фарысейскі прапаведываць „Несть элліна, ні іудея“, і адначасна з пенаю на вуснах гэта таптаць. Сабраныя ў Прачысьценскім саборы дружна адсьпявалі „Божа, што калісь Народы“ і пасьля гэтага разыйшліся, каб ізноў спаткацца ў вечары на ўрачыстай акадэміі, якая адбылася ў вялікай Салі Віл. Літоўскай Гімназіі. Прысутныя выпаўнілі салю па берагі. Сярод прыбыўшых гасьцей у першую чаргу мы бачылі прадстаўнікоў ад украінскага народу, у асобах паслоў: д-ра Д. Левіцкага, Вахнюка, Загайкевіча і рэдактара укр. штодзеннае газэты „Діло“ Кедрына. Затым прадстаўнікоў ад літоўцаў: кс. праф. Краўяліса, д-ра Альсэйку, урэшце прадстаўнікоў ад жыдоўскага, польскага і расейскага грамадзянства. За прэзыдыяльным сталом заселі: старшыня Юбілейнага К-ту грам. С. Паўловіч, пасол Ярэміч, старшыня Бел. Нацыян. К-ту грам. Я. Пазьняк, студэнты В. Тумаш і С. Сарока (гэнэральны сэкрэтар Ц. Б. П. К., прып. рэд.), кс. А. Станкевіч, адв. Ф. Стэцкевіч, інж. Клімовіч і грам. М. Кепель. Пасьля адкрыцьця акадэміі, рэфэрат на тэмы „Незалежнасьць Беларусі як ідэал — задаткам Незалежнасьці фактычнай“ прачытаў студ. Сарока, а па ім рэфэрат на тэму „Кастусь Каліноўскі, „Мужыцкая Праўда“ і ідэя Незалежнасьці Беларусі“ прачытаў кс. Ад. Станкевіч. Пасьля рэфэратаў пачаліся прывітаньні, пад-час якіх забіралі голас ад украінцаў пас. д-р Д. Левіцкі, пас. Вахнюк, рэд. Кедрын, студ. Крахмалюк і студ. Фэдык. Ад ліцьвіноў віталі—д-р Альсэйка і студ. Краўжліс, ад імя жыдоўскага грамадзянства забіраў голас д-р Выгодзкі і ад польскага—д-р Выслоух. Апрача гэтага атрыманы пісьменныя прывітаньні—тэлеграмы лікам больш трыццацьцёх з заграніцы і з краю. З духавенства прав. прывітальную тэлеграму прыслаў толькі сьв. А. Коўш. Пасьля прывітаньняў адбыўся канцэртны аддзел, затым пад сьпевы Нацыянальных гымнаў акадэмія была закончана.

Апрача гэнае акадэміі вучні Віл. Бел. Гімназіі ў мурох сваёй школы зладзілі таксама маленькую ўрачыстасьць, на якой былі прачытаны адпаведныя рэфэраты і быў зладжаны канцэртны аддзел. Гэтулькі ў кароткіх рысах аб вонкавай старане гэнага сьвята ў Вільні.

З боку, калі так можна сказаць, ідэолёгічнага, урачыстасьць гэная яшчэ раз паказала, што ідэя незалежнасьці, і поклічы вызваленьня, штораз мацней і штораз глыбей ахапляюць Народ Беларускі . І хоць там жменька рэнэгатаў ганьбіць імя беларускае, то аднак разгону народнага ўжо не запыніць, бо ў душах масаў, у сэрцы беларускае інтэлігэнцыі Беларусь жыве, жыве Незалежнай і Вольнай. А ўсе перашкоды, усе напасьці толькі больш раз'агняюць стыхію, толькі яшчэ мацней пацягаюць яе да спрадвечнае беларускае праўды.

**Незалежнік**.

# Агляд прэсы.

У другой палове 1931 г. і ў пачатку 1932 г. выйшлі тры нумары часопісі п. н. «Голас Прав. Беларуса», орган ведамае на беларускім грунце ўгадоўшчыны, маючай на мэце бурыць усё, што непасільным высілкам здабываецца беларусамі. Зьместам гэнае часопісі былі пераважна нападкі на тых з беларусоў, хто не хацеў запрадацца ворагам нашага народу. Спосабы барацьбы былі

верным адбіцьцём маральнае роўні аўтараў гэнае часопісі. Агулам кажучы, пісалася тое, чаго хацелі аплачываючыя гэту правакацыю. «Бел. Крыніца» зьмест гэнае часопісі проста называе «сьмяцьцё», акрэсьліваючы усё гэта як «вясельле бесаў у царкоўнай званіцы». Вось-жа няма чаго дзівіцца, што і „Сьветач Беларусі“, з боку спомненае часопісі, мусіў вынесьці цэлы рад бязглуздых і нясумленных нападаў. Тое самае спаткала і Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт. Словам, мэтай гэнае часопісі было ачарненьне Камітэту і „Сьветача Белар.“, каб гэткім чынам падарваць іх аўтарытэт перад народам і Дух. Уладай. Ясна ані Камітэт, ані „Сьветач Бел.“ на гэтым не пацярпелі. Адно пацярпела толькі сама справа, якую паны Астроўскія і Міхалевічы так нягодна патапталі, а пасьля запрадалі.

Сяньня аб той часопісі няма і спаміну. Ды ўрэшце яна сваё зрабіла: апаганіла, згуртаваных каля яе і так апаганеных і дала тварцом яе па пару срэбнікаў. „Сьветач Беларусі“ і надалей жыве, зацікаўленьне ім узрастае, значэньне яго зьвялічваецца, што яшчэ падкрэсьліла ў 1931 г. «Бел. Крыніца» (23. X. 31 № 33), гэная насьбітка агульна беларускага ідэалу. **Юр.**

—·—

Пачынаючы ад жніўня 1932 г. Праваслаўная Фракцыя Б. Х. Д. пачала выдаваць свой орган пад назовам — „Царква і Народ“. Захаваньне Праваслаўя на Беларусі — вось мэта гэтага органу. Шляхі дзеля асягненьня гэтага наступныя: „1) Згуртаваньне, на ўзор слаўнае мінуўшчыны, каля родных сьвятыняў верных Царквы Зах. Беларусі і паглыбленьне іх рэлігійнае сьведамасьці. 2) Беларусізацыя царкоўнага жыцьця і кліра. 3) Змаганьне з рамесьніцкім фармалізмам і дэструкцыйнай прафанацыяй на ўлоньні Царквы, падрываючымі яе аўтарытэт і дэмаралізуючымі народ“. („Царква і Народ“ № 1). Як бачым, мэта і шляхі новае часопісі сапраўды глыбокія і паважныя.

У гэнай плошчы напісаны і іншыя друкаваныя ў ёй артыкулы. Аднак асаблівае ўвагі заслугоўвае артыкул зьмешчаны пад загалоўкам „Элеўфэрыянства і наша будучыня“ у № 2 гэнае часопісі. Аўтар яго, С. Завейка, цэлым радам канкрэтных прыкладаў даводзіць, што элеўфэрыянства ўсеўладна пануе ня толькі ў нашай эпархіі, але сьляды яго можам бачыць нават у Варшаве. А далей мы чытаем: „...Вынікі гэтага відавочны. Па ўсей Беларусі, у кожнай вёсцы маем гнёзды сэктанства, народ яго ўжо не баіцца, у сэктанства пачынаюць пераходзіць псаломшчыкі і царкоўныя старасты. Каталіцкая Царква беларускую моладзь гатуе дзесяткамі ў вуніяцкіх духоўных школах, закладаюцца дзіцячыя прытулкі, у беларускай мове стала выдаюцца часопісі, кніжкі, календары, адбываюцца зьезды і кангрэсы, на якіх самі ўжо беларусы падаюць спосабы здабыцьця народу. І народ вуніі перастае палохацца“. Канчае аўтар свой артыкул наступнай жудаснай заўвагай — „... бо калі ў сучаснай Расеі справа Царквы знаходзіцца ў варунках страшных, то ў нас яшчэ страшней і гарэй. Там рэлігію і Бога глумам і зьдзекам загналі ў душы вернікаў, у іх сэрцы, а *ў нас Бога і рэлігію вытраўляюць назаўсёды з душаў і сэрцаў*“.

Агулам кажучы, часопісь робіць ураджаньне дужа прыемнае, а гэта дзякуючы свайму глыбокаму і аб'ектыўнаму падыходу да справы. **Ц.**

—·—

Пачынаючы ад сярэдзіны мінулага году газэта „Беларуская Крыніца“ (газэта на грунце беларускім найстарэйшая, апошнімі часамі адзіная годна рэпрэзэнтуючая беларускае адраджэнскае імкненьне) пачала сыстэматычна прысьвячаць свае старонкі пытаньню рэлігійнаму і асабліва праваслаўнаму. Праўда, парушае яна і справу вуніі, аднак, як газэта агульна-беларуская, — то гэта для нас зусім зразумела.

Вось-жа, трэба сказаць, што падыход „Бел. Крыніцы“ да справы царквы на Беларусі, да справы беларусізацыі царквы наагул, зусім добры, адно толькі „Бел. Крыніца“ павінна ў гэтым пытаньні быць больш канкрэтнай, г. зн. ня гэтак агульнікова разважаць там, дзе ведама ўсім добра, *што* рэальнага вы-

магае дабро царквы і народу. Наагул у гэтым пытаньні „Бел. Крыніца“, як адзіны незалежніцкі орган вызвольнае Беларусі, павінна перайсьці з плошчы спасьцярогаў і разважаньняў на шлях больш актыўны, г. зн. стацца барацьбіткай дабра царквы і народу.

Канчаючы свае зусім аб'ектыўныя заўвагі адносна „Бел. Крыніцы“, мне хацелася-б ў некалькіх словах сказаць ёй, чаго яна мае высьцярагацца, каб ня страціць агульна-здабытага прызнаньня і пашаны.

Вось-жа, павінна высьцярагацца ў першую чаргу тых непаважных способаў барацьбы з ворагамі беларушчыны, якімі якраз опэруюць гэныя ворагі. Канкрэтна гаворачы, „Бел. Крыніца“, змагаючы розныя луцкевічаўскія шопкі, не павінна з імі лучыць тых, хто ідзе ў сваёй барацьбе незалежна ад Б. Х. Д., або нават, хто ўжо даўно палітыку пакінуў. Ня значыць, што, калі „Бел. Крыніца“ хоча распачаць працу на грунце праваслаўным, то трэба ўсіх гэтым пытаньнем цікавячыхся (розных „праваслаўных“ дырэктараў і сапраўды даволі шчыра і ахвярна змагаючыхся за беларусізацыю царквы) мяшаць у вадно ды таптаць (Бел. Крын. № 16, 24. IV. 1932 г.).

Гэткімі мэтадамі паважная газэта павінна брыдзіцца, бо што можна вытлумачыць у рабоце грабароў беларускае справы, тое ня дасца вытлумачыць на старонках „Бел. Крыніцы“, тым больш, калі яна год таму назад патрапіла крыху інакш думаць («Бел. Крын. 23 кастр. 1931 г. № 33“). **Ц.**

—·—

У № 15 „Воскресн. Чтения“ ад 9. IV. 33 г. у аглядзе прэсы п. Vох піша даслоўна наступнае: „Хорошо известно, что у всякаго нормально развивающагося и живущаго народа, если даже он не обладает высшим национальным достоянием, — независимым государственным существованием, имеются две громадныя ценности: — это вера и родной язык. Они, в значительной мере, определяют собою суб'ективную индивидуальность каждаго народа, и до такой степени сливаются с его национальной сущностью, что расставаясь с ними, теряя их, народ перестает быть собою, умирает. Поэтому, привязанность к родной вере и своему языку является непременной чертой всякаго живого и жизнеспособнаго народа, и за них такой народ готов на большия жертвы, неоднократно—на борьбу, в которой не отступает ни перед чем“.

Затым п. Vох сьцьвярджае, што „... мораль культурнаго человечества XX века...“ усё гэна належна ацаніла і паасобныя дзяржавы ў сваім заканадаўстве, усё гэта загварантавалі, як прыродныя правы сваіх грамадзян. Адмова гэтых правоў або іх нарушэньне, „уже давно считалось как бы противозаконным, оскорбляющим естественныя права человека и гражданина, и разсматривалось, как в высокой степени безнравственное, вредное действие, направленное против того народа, каторый пытались лишить его языка и его веры...“ Крыху ніжэй ізноў чытаем: „У большинства народов эти две ценности органически сливались, а именно: Церковь, внешне воплощающая религиозный культ даннаго народа, приобретала его национальный характер и, в своем ежедневном быту, насыщалась его языком, становилась национальной по составу его духовенства, по языку своих молитв, проповедей, а отчасти — и богослужения“...

Гэткія думкі знаходзім у афіцыяльным органе Мітраполіі. Гэтак думае сэкрэтар Канцэлярыі Сьв. Сыноду, гэтак думае і Выш. Дух. Улада. Здавалася-б трэба цешыцца, што кіраўнікі нашага царкоўнага жыцьця могуць свае адносіны да верных апіраць на так высока хрысьціянских асновах. Аднак, у сапраўднасьці, прыходзіцца толькі з болем у сэрцы дзівіцца, што як далёка, як нізка можа даходзіць людзкае ліцамерства. У той час, калі нішчаць беларускае духавенства, зьдзекуюцца над ім за яго беларускасьць, у той час, калі Мітраполія дае залатыя крыжы прат. Тучэмскім, якія перакалечылі на ўсё жыцьцё дзесяткі беларускіх дзяцей, будучых пастыраў, або паразганялі іх да ворагаў

Царквы, калі Мітраполія дае прātаіерэйствы такім сьв. Спрогісам, Балаям, Баталіным, паносячым усё беларускае, топчучым найдаражэйшыя пачуцьці беларусаў, калі гэткія прат. Дзічкоўскія адганяюць беларусаў за іх беларускасьць зусім ад Царквы, калі арх. Хвядос няхрысьціянскім „никаких белоруссов нет“, адмаўляе ім права на жыцьцё, у той час, калі з Царквы зрабілі арэну палітычнае прапаганды, варожай усяму беларускаму народу, гатуючай яму сьмерць, —у гэты час так фарысейскі, так цынічна на паказ сьвету высоўваецца „мораль культурнага человечества XX века“, лічыцца гэна праступствам, а ўся вышэй пералічаная іх работа „...уже давно считалось как бы противозаконным, оскарбляющим естественныя права человека і гражданина, и разсматривалось, как в высокой степени безнравственное...“

Чытаючы ўспомнены артыкул, прыходзіцца перад іншаверцамі чырванець, ад болю і сораму чырванець, што праваслаўная Царква так безнаказна, так цынічна пазорыцца людзьмі, якія маюць яшчэ адвагу страшыць праклёнамі за горкую праўду, гавораную ў вочы.

---

У № 21 „Воскреснаго Чтения“ за сёлетні год, у аглядзе прэсы пад загалоўкам „Отклики Юбилея Его Блаженства“ аўтар гэнага артыкулу п. Vox выказвае сваё зьдзіўленьне, што „...из тринадцати приглашенных (на юбілей, прып. Рэдакцыі) украінских организаций лишь две прислали ответы... Прочия приглашения — 11 украинских и 1 грузинская организации признали излишним вообще реагировать на приглашение...“. Цікава тое, што і тыя дзьве арганізацыі ўкраінскія, даўшыя адказ, удзелу ў сьвяткаваньні аднак не прынялі. Далей чытаем што „приняли участие лишь представители 19 русских общественных организаций“.

Вось-жа гэнае апошняе бадай ці ня будзе ўсяму разьвязкай. Жменька палітыканаў, умела акружыўшая нашага прадстаяцеля Царквы, сваім безнаказным і не хрысьціянскім захаваньнем зрабіла тое, што змусіла грузінаў, украінцаў і беларусаў ад сьвята гэтага адмовіцца, сьвята гэта збайкатаваць. Не таму збайкатаваць, што гэта быў юбілей Уладыкі Мітрапаліта, *якога ўсе мы шануем,* а таму, што ўспомненыя 19 арганізацыяў расейскіх юбілей Уладыкі Мітрапаліта выкарысталі дзеля адсьвяткаваньня 10 угодкаў перавагі палітыкі над дабром царквы, выкарысталі дзеля заманіфэставаньня свайго палітычнага аблічча. Бязумоўна, пры ўсей нават пашане да асобы Высокага Юбілянта, прадстаўнікі 95% вернікаў у гэтым сьвяце ўдзелу прыняць не змаглі. Тут ня ходзіць аб амбіцыі, бо справа ставіцца прынцыпова—на дэманстрацыю адказана дэманстрацыяй. За пастаўленьне Уладыкі Мітрапаліта ў так прыкрае палажэньне, за надужыцьцё яго асобы і імя павінны адказываць тыя, хто ўжо на працягу дзесяткаў гадоў падобныя дэманстрацыі за яго плячыма ладзіць бязупынна. Складаньне-ж цяпер віны на іншых, абнажае кампрамітацыю яшчэ больш, а пералічываньне сухіх, з абавязку падаваных, хронікёрскіх зацемак аб юбілеі, фіаско павялічывае.

Сьв. Сынод павінен нарэшце на ўсе гэтыя ненармальнасьці зьвярнуць увагу і выцягнуць з гэтага належныя консэквэнцыі. Раз назаўсёды трэба або прызнаць абсалютнаю (бо аж 95%!) большасьць і на яе абаперціся фактычна, або згадзіцца і маўчаць, калі жмэнька «избранных», сваю маласьць і нязначнасьць прыкрываючая пустымі і бязглуздымі маніфэстацыямі, будзе ставіць асобу Блаж. Мітр. Дзяніса і Сьв. Сынод у палажэньне іх кампрамітуючае ў вачох верных, дзяржавы і заграніцы.

Апошнія падзеі гэта толькі грознае memento. **М. П—іч.**

# Мэмарыял.

*Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт дня 9. IX. 32 г за № 118 пераслаў Мітр. Дзянісу ніжэй зьмешчаны мэмарыял, які на паседжаньні сьв. Сыноду выклікаў ведамую рэзалюцыю, гаворачую аб „Крайних прещениях". Свае заўвагі адносна гэтага мэморыялу зьмяшчаем ніжэй.*

*Рэдакцыя.*

Яго Блажэнству Блажэньнейшаму Дзіанісу, Мітрапаліту Варшаўскаму, Валынскаму і ўсяе Польшчы, дзеля ласкавага прадстаўленьня сэсыі Сьв. Сыноду.

Палажэньне царкоўнага жыцьця ў Зах. Беларусі і асабліва ў Віл. Эпархіі зьяўляецца так відавочна цяжкім, ня гледзячы на розныя прыкрываньні гэтага штучнымі дэманстрацыямі, маючымі сьведчыць аб *„ўсё у парадку"*, што ратаваньне палажэньня гэтага магчыма толькі пад варункам ужыцьця сродкаў радыкальных і то ўжо *цяпер*, бо і яны могуць хутка аказацца непатрэбнымі. Даволі тут успомніць працы штундыстаў, баптыстаў, мэтадыстаў, уплывы камуністычныя і выплываючыя з іх атэістычныя, упорная акцыя духавенства каталіцкага, маральная распушчанасьць і зьдзічэласьць вёскі, ўсё гэта вынікі таго, што адна частка духавенства ня можа ісьці шчыра за голасам свайго пастырскага прызваньня, бо ўсе высілкі яго прымусова накіраваны на выпампоўваньне бясконцых кансысторскіх падаткаў і на згары гвалтам вымушанага на ім дэманстраваньня рэакцыйнага, варожага народу, шавінізму. Другая частка духавенства, служачы не Царкве, але ўзурпатарам епіскапскага аўтарытэту і праз гэта чуючыся безнаказнай, ня толькі адпіхае народ ад Царквы, але згубна яго дэмаралізуе, вытраўляючы з яго душы ня толькі ўсялякую рэлігійнасьць, але і прымітыўныя рэшткі чалавечнасьці. Усё гэта разам узятае імкнецъ жыцьцё царкоўнае і яго традыцыі *ў пропасьць.* Даволі трапіць у першы лепшы прыход і быць хоць крыху чалавекам сумленным і аб'ектыўна гледзячым на рэчы, як адразу ўся гэная небясьпека паўстае ўвачавідкі ўва ўсей сваёй паўнаце. Калі-ж яшчэ сяньня і гаворыцца аб праваслаўным народзе то трэба ведаць, што народ гэны гэта бадай толькі і будуць адны *старыкі*, 10%-20% усяго праваслаўнага насельніцтва, злучаныя з Царквой толькі традыцыйным фармалізмам. Моладзь - жа ня толькі індэфэрэнта адносіцца да Царквы, але большасьць яе часта супроць Царквы настроена варожа. Увесь трагізм гэны яшчэ больш зьвялічвае сучасны духовы і матэрыяльны крызіс. Сяньня Віл. Эпархія ня можа *даплаціць* 9000 зал., заўтра яна ня зможа ня толькі ўтрымаць духаўніка, але ня зможа *сабраць* і 9000 зал., не гаворучы ўжо аб тым, што назраваючая і магутнеючая дэмаралізацыя можа выліцца ў формы больш вострыя, небясьпечныя ня толькі для Царквы, але і для публічнага супакою. Гэны пагляд наш ня ёсьць адасобленым тэндэнцыйным маляваньнем сытуацыі на чорна, але гэта зусім трэзвае і аб'ектыўнае сканстантаваньне фактаў, аб якіх сяньня гавораць у беларускай, украінскай, польскай, расейскай прэсе і інш... Аб усім гэтым на працягу *некалькіх гадоў* да Сьв. Сыноду і Вашага Блажэнства зьвярталіся *абсалютна ўсе існуючыя беларускія арганізацыі* і заўсягды, ня гледзячы на розьніцу іх грамадскіх кірункаў, сцьверджаньне цяжкага становішча Царквы і выхад з гэтага былі зусім аднолькавы. Аднак і *да сяньня адказам* на ўсе гэныя просьбы і перасьцярогі было толькі *адно маўчаньне*, ня лічачы нерэчаістных дыплёматычных гутарак і абяцанак. Што горш, ўсе гэныя просьбы былі нясумленна трактаваны як просьбы ў справе

здаваленьня дробных асабістых інтарэсаў некалькіх адзінак. Гэткае нясумленнае тлумачаньне, або ў лепшым выпадку *глухое маўчаньне*, ствараюць грунт, на якім некалькі безнаказных адзінак, выкарыстоўваючых старасьць і слабасьць арх. Хвядоса, сваей дзейнасьцю найспакайней у сьвеце прафануюць Царкву і падрываюць аўтарытэт праваслаўнага епіскапа. Ратуючы і далейшую магчымасьць проціцаркоўнага выкарыстоўваньня сваіх становішчаў, адзінкі гэтыя ўсе захады здаровага царкоўнага беларускага грамадзянства, ў справе ратаваньня Царквы, публічна выстаўляюць, як імкненьні характару палітычнага, няраз дзеля гэтага ўжываючы правакацыйныя інсынуацыі, натраўляючы грамадзянства расейскае на беларускае, распаліваючы на грунце нацыянальным і кірункаў грамадскіх антаганізмы і ненавісьць. Даволі праглездзіць *шматлікія даклады* ў гэтай справе, амаль ад *усіх беларускіх арганізацыяў*, зложаныя розным чыньнікам, раз яшчэ прачытаць часопісі, парушаючыя гэныя пытаньні, прачытаць пратаколы судовае расправы над студ. Сарокай, глянуць у гісторыю жыцьця цэлага раду беларусаў-духаўнікоў, успомніць саюзную кампанію Віл. Кансысторыі і „*Нашей Жизни*", (устаноўленую судова), саюз з беларускай масонэрыяй, на чале з „слаўнымі" дырэктарамі Астроўскім і Міхалевічам, *пад гвалтам і прымусам ладжаныя сельскім духавенствам „пратэсты"*, як ужо можна ўявіць сабе тое ненармальнае становішча царкоўнага жыцьця ў Віл. Эпархіі, якое і да сяньня неўдалося аздаравіць, дзякуючы стасаванаму з аднаго боку *дыплёматычнамv маўчаньню*, а з другога боку— *згвалчанаму сумленьню*.

Сяньня ўсё гэта знайшлося ў прадздень аканчальнае разьвязкі.

Частка грамадзянства і моладзі, нездаволенае ўмеркаванасьцю дамаганьняў Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту і лічачы *яго адказным за гэта*, апошнім часам распачынае акцыю самастойную, але і куды вастрэйшую з увагі на вынікі яе. Апублікаваны ў № I часопісі „Царква і Народ" мэморыял і *асабліва яго заканчэньне*, як зароўна, разасланыя моладзьдзю па прыходам, ужо ў месяцы жніўні, заклікі да байкоту духаўнікоў, падтрымоўваючых кіраўніцтва Віленскай Эпархіі, пры прыняцьці пад увагу агульнае незадаволенасьці і абядненьня, усё гэта падзеі, дальшы цяг якіх і вынікі ўжо ў блізкай будучыні могуць задэцыдаваць аб далейшым лёсе Царквы ў Зах. Беларусі наагул.

Кіраўніцтва Віл. Эпархіі, ў кірунку злагоджаньня ўсяго вытваранага, ня толькі нічога ня робіць, але наадварот ўсё гэта паглыбляе што раз новымі, чыста проціцаркоўнымі ўчынкамі. Дайшло да таго, што ў пакоях арх. Хвядоса, хочам верыць што быць можа і бяз яго ведама, сельскаму духавенству афіцыяльна раздаюцца брашуркі, прапагуючыя тэрор і заклікаючыя да забойстваў і разбойстваў ды іншых злачынаў, кашчунскі зьмешчаных пад знакам васьміканечнага хрэста на загалоўным лісьце. Гэткім чынам пры помачы архіепіскапскага аўтарытэту на нашых землях засеіваюцца заразкі духовае дэмаралізацыі, гатуючыя новых Кавэрдаў і Гаргуловых. Таксама Эпарх. Кіраўніцтва асягаючы мэты нязгодныя з духам і мэтамі Царквы, пакідаюць віленскае бел. грамадзянства і моладзь бяз бацькавае пастырскае апекі, бо адзінага ў Вільні сьвяшчэньніка беларуса змушаюць выехаць на глухі прыход. Іншага сьвяшчэньніка ачарняюць перад уладамі цывільнымі і перакідаюць яго на філійны прыход толькі дзякуючы таму, што яго месца мае заняць адзін з крэўных сябры Кансысторыі. Беспадстаўнасьць закідаў, гэтаму сьвяшчэньніку ўчыненых, сцьверджана ў дакладзе благачыннага. Змушаючы сьвяшчэньніка беларуса выехаць з Вільні, Эпархіальная Улада ў той-жа час знаходзіць магчымасьць даць месца ў Вільні сьвяшчэньніку з іншае эпархіі, скампрамітаванаму там проціцаркоўным палітычна - шавіністычным выступленьнем супроць праваслаўнага епіскапа. Ізноў-жа Віл. Эпар. Кіраўніцтва манючыся, быццам, зрабіць пераклад на беларускую мову Эвангельля запрашае дзеля гэтага ў спосаб *дэманстрацыйны* прат. Тучэмскага і прат.

Дзічкоўскага, людзей, якія беларускую мову трактуюць *праз сьмех* і знаёмасьць якое ўжо паказывалі няраз, выклікаючы гэтым абурэньне з боку беларускага грамадзянства. Усё гэта здавалася-бы падзеі дробныя, аднак, у сапраўднасьці, маючыя характар спарадычнае дэманстрацыі, каторыя калі ня будуць у хуткім часе запынены, выклічуць, з боку радыкальнае, але царкоўнае часьціны бел. грамадзянства, рашучае выступленьне, небясьпечнае ў выніках для будучыні.

Глыбака веручы ў бацькавую руплівасьць Вашага Блажэнства аб дабры Царквы Зах. Беларусі, Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт, прыймаючы пад увагу ўсе свае *папярэднія даклады і мэморыялы,* зложаныя Сьв. Сыноду і Вашаму Блажэнству, як зароўна свае даклады вусныя, зложаныя цераз прадстаўнікоў Камітэту, гэтым просіць Сьв. Сынод і Вашае Блажэнства аб наступным:

I) неадкладнае звальненьне сучасных сяброў Кансысторыі і замена іх асобамі, зьвязанымі з бел. народам кроўна і духова;

II) неадкладнае правядзеньне прынамсі *частковае беларусізацыі Царквы;*

III) прызначаньне для праваслаўных беларусаў у Вільні асобнага прыходу і прызьначаньне туды сьвяшчэньніка беларуса, згодна з просьбамі папярэдніх дакладаў.

Адначасна з гэтым Цэнтр. Бел. Прав. Камітэт рашуча пратэстуе:

I) супроць кашчунскага пазораньня ў епіскапскіх покоях хрэста і епіскапскага сану, пад аховам якіх распашыраюцца тэрорыстычныя лістоўкі;

II) супроць дэманстрацыйнага змушаньня на выезд у правінцыю адзінага ў Вільні беларуса сьвяшчэньніка;

III) супроць прыняцьця ў Вільню скампрамітаванага сьвяшчэньніка, пад прыкрыцьцём расы асягаючага варожыя бел. народу палітычныя мэты;

VI) супроць нясумленнага і беспадстаўнага чарненьня перад уладамі цывыльнымі прав. сьвяшчэньніка.

На выпадак незадаваленьня прошанага на найбліжэйшай Сэсіі Сьв. Сыноду, Камітэт, *з увагі на грамадскі абавязак,* мэморыял гэны будзе змушаны апублікаваць у прэсэ.

---

**Ад рэдакцыі.** У адказ на гэты мэморыял, Выш. Дух. Улады зажадалі ад Віл. Эпарх. Кіраўніцтва адпаведнага сьледства, якое і мела задэцыдаваць аб праўдзівасьці зьместу ўспомненага мэморыялу. Ясна, што тутэйшы кіраўнічы апарат, як чуючыйся найбольш „пакрыўджаным“ гэтым мэморыялам, сьледства над сабой закончыў хутка і, назьбіраўшы адпаведную колькасьць подпісаў ад сваіх падуладных, даказаў сваю нявіннасьць. Тады мэморыял гэты трапіў (згодна з заўвагай аднаго Указу Віл. Кансысторыі) на разгляд на паседжаньні Сьв. Сыноду, якое адбылося 17 лютага 1933 г... Там мэморыял гэты быў залічаны да ліку асабліва вострых, на аўтараў якіх і вынесена ведамая рэзалюцыя, гаворачая аб „внушеніи«, і крайних прещеніях“,

З нагоды гэтага мэморыялу і ўсяе з ім зьвязанае гісторыі, рэдакцыя „Сьветача Беларусі“ гэтым хоча зьвярнуць агульную ўвагу на некаторыя прынцыпова-фармальныя бакі ўспомненага мэморыялу, ім выкліканага сьледства і пастановы Сьв. Сыноду.

Вось-жа, мэморыял гэты зьяўляецца звычайным зрэасумаваньнем і уагульненьнем усіх папярэдніх мэморыялаў, высыланых ад імя ўсіх існуючых беларускіх грамадскіх арганізацыяў на працягу некалькіх гадоў. Апрача гэтага зьмешчаны тут яшчэ некаторыя факты, маючыя на мэце толькі яшчэ раз падкрэсьліць аднабокую і плянова-сыстэматычную дзейнасьць Віл. Эпарх. Кіраўніцтва, выклікаючага гэтым сталы заняпад рэлігійнасьці ў народзе. Вострасьць мэморыялу гэтага, калі хто хоча там яе дашукацца, заключаецца не ў вастраце зрэдагаваньня мэморыялу, але ў вастраце суха пададзеных фактаў, зьмест якіх пераходзіць граніцы дазволенага правам і звычаямі, а таму і выклікае ўражаньне вострасьці. Усе пералічаныя факты пададзены з абавязку, дзеля аб'ектыўнага папярэджаньня Выш. Дух. Уладаў аб пагражаючай небясьпецы. Урэшце, пра-

моўчываньне, або захоўвываньне ўсяго гэтага ў таямніцы, было-бы праступствам і здрадаю перад Царквой і Народам.

Аб праўдзівасьці зьмешчанага ў мэморыяле гаворыць ужо тое, што мэморыял высланы ня нейкім ананімам, але за подпісамі сяброў агульнаведамага Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту. Але дадамо яшчэ некалькі заўваг. Аб вытваранай у нашай Эпархіі сытуацыі (пададзенай і ў гэтым мэморыяле) забірала ўжо голас прэса беларуская, расейская, польская і інш., пісалася ў безьлічы мэморыялаў і просьбаў, гаварылася на судох, словам—аб гэтым ведама сяньня ўсім. Урэшце, кожны можа пераканацца і асабіста, зьведаўшы нашу веску ў любы мамэнт. У пакоях Арх. Хвядоса, успомненыя брашуркі раздаваліся, што прызнаў і сам арх. Хвядос, давёўшы да ведама сяброў Камітэту, што раздаваліся яны быццам без яго ведама і што раздаваўшыя (хлапчук-послушнік і дзіякан Уладзімір) панесьлі ўжо належную кару. Сьв. Каўша адзінага ў Вільні духаўніка-беларуса выслалі ў Пастаўшчыну, аб чым ўсім ведама. У справе Сяглюка сказана ўжо ў іншым мейсцы нашае часопісі. Адносіны прат. Тучэмскага і Дзічкоўскага да беларусаў можам пазнаць хоць-бы ўжо із наступнага: уціск вучняў беларусаў у Віл. Дух. Сэмінарыі, устаноўлены судова, адмова прычту Прэчысьценскага Сабору (настаяцелям якога лічыцца прат. Дзічкоўскі) беларусам у малебне даведзена да ведама мітр. Дзяніса. Усё гэта факты, а ёсьць іх безьліч, якія найлепш гавораць аб адносінах успомненых пратаіерэяў да беларусаў, а тым самым і да іх мовы.

Як бачым, вернасьць пададзеных у мэморыяле фактаў не падлягае ніякаму сумніву. Ды ўрэшце аб усім гэтым пісалася няраз ужо публічна і ніхто гэтаму не запярэчыў.

Мусім думаць, што Сьв. Сынод, падобна, як прызнаў гэта і сам арх. Хвядос, прызнае нам слушнасьць, што закліканьне да садызму, да забойства людзей, можа і вельмі грэшных, заклікаьне да ўсяго гэтага пад нагалоўкам васьміканечнага хрэста і пры тым ў пакоях архіепіскапа — гэта страшнае кашчунства. Беспадстаўнае пазораньне Дух. Уладамі свайго падуладнага сьвяшчэньніка, санкцыянаваньне чарненьня праваслаўнага епіскапа яго-ж сьвяшчэньнікам, безгранічная ненавісьць, злоба, а нават уціскі з боку духаўніка да свайго пасомага — гэта ўсё ня меншае кашчунства ад папярэдняга. Бурэньне, з паглядаў палітычных, жыцьця рэлігійнага, падпарадкавываньне Царквы палітыцэ, падкапываньне маральных асноваў пасомых, дэманстрацыйнае ігнараваньне іх просьбаў аб справядлівасьці і сумленьні — ўсё гэта зло, і то страшнае зло. Вось-жа, бачыць гэнае страшнае праступства (бо ўсё пералічанае трэба назваць праступствам адносна Царквы, у чым мусяць з намі згадзіцца і Выш. Дух. Улады) і маўчаць, азначала-бы, як мы сказалі вышэй, здраду перад Царквой і Народам. Тым больш ня мог маўчаць Камітэт, які ўзлажыў на сябе зусім акрэсьленыя забавязаньні, лічыць сябе адказным перад Царквой, Народам і гісторыей.

Паўстае пытаньне, якім-жа чынам апраўдалі сябе закранутыя ў мэморыяле адзінкі перад Выш. Дух. Уладамі? Як яны запярэчылі зробленым ім закідам, якія, кожны прызнае, вельмі цяжкія? Вось-жа было зладжана ўспомненае сьледства, якое і даказала іх поўную нявіннасьць. Шляхам фармальнага запытаньня мы просім адказаць нам,—дзе гэта было-б бачаным, або дзе гэта практыкуецца каб абвінавачаны праводзіў над самым сабой сьледства, сам сябе засуджываў, або апраўдваў? Нам здаецца, што каб гэтак пастуналі з абвінавачаным і ўлады пракурорскія, то не патрэбны былі-бы і гэтыя ўлады, можна было-бы зьліквідаваць і ўсе вастрогі, бо напэўна незнайшлося-бы ані воднага праступніка, кожны-б даказаў сваю нявіннасьць. Нічога таму дзіўнага няма, што і ўспомненае сьледства над закранутымі ў мэморыяле адзінкамі, даказала іх нявіннасьць, хоць-жа віноўнасьць іх не падлягае ніякаму сумніву, і нават з гэтым згадзіўся сам арх. Хвядос, а ў свой час і ўлады судовыя. Вось-жа праўнае і маральнае вартасьці сьледства гэнае мець ня можа. Выдаваць на падставе

такога сьледства нейкія пастановы і рэзалюцыі трэба прызнаць няпраўнымі, трэба прызнаць іх „пристрастными“. Сьв. Сынод, як найвышэйшы кіраўнічы орган Аўтокэфальнае Прав Царквы, павінен да ўсялякіх непаразуменьняў духавенства з вернымі адносіцца вельмі асьцярожна і аб'ектыўна, чаго вымагае і сам аўтарытэт Сьв. Сыноду і яго вялікае назначаньне, чаго вымагае ўрэшце і дабро Царквы.

Між тым Сьв. Сынод у выніку разгляду ўспомненага (а магчыма і іншых) мэморыялу, выносіць пастанову, каб мясцовыя Дух. Улады „особо упорствующих“ сьпярша „внушили“, а пасьля і ўжылі адносна іх „крайния прещения“. Такім чынам, Сьв. Сынод дае магчымасьць Эпарх. Кіраўніцтву на кожнага, хто будзе пратэставаць супроць кашчунства, злачынаў, дэмаралізацыі духавенства і верных, накінуць паняцьце „особо упорствующаго“, каб за тым, яго, як ня выгоднага Эпарх. Кіраўніцтву, прадаць „крайним прещеніям“. Разам з тым, прызнаньне успомненага сьледства, як праўна здаволіваючага аргумэнту, дае магчымасьць Эпарх. Кіраўніцтву найвялікшыя злачыны апраўдаць у вачох мітраполіі, заўсёды даказаць нявіннасьць абвінавачанага.

Як далей бачым, усё вышэй сказанае рэалізуецца. Віл. Эпарх. Кіраўніцтва, даказаўшы сваю нявіннасьць, сваім найарыгінальнейшым у сьвеце і гісторыі сьледствам, зладзіла ўжо адпаведны ўказ, уцягнула туды прозьвішчы »особо упорствующих“ і пагражае »крайними прещеніями“.

Рэасумуючы ўсё вышэй сказанае, мусім сцьвердзіць, што ўспомнены мэморыял нічым „вострым“ неадзначаўся: канстатаваў трагічнае палажэньне жыцьця царкоўнага на Беларусі,зьмяшчаў факты праўдзівыя, нікім не адкінутыя, факты, якія, як прыклады, ілюстравалі гаворанае агульна, ілюстравалі несправядлівасьці, пагражаючыя дабру Царквы і Народу. Няпраўнае і неаб'ектыўнае сьледства зробленых закідаў не адкінула, а таму акрэсьленьне ўспомненага мэморыялу на паседжаньні Сьв. Сыноду як „остраго“, ня мела ніякіх падстаў.

Падцягіваньне пад паняцьце „особо упорствующих“ людзей, якія пратэстуюць супроць кашчунства (прызнанае самым-жа арх. Хвядосам), супроць гвалтаў і уціскаў (сцьверджаных судова), супроць дэмаралізацыі духавенства і народу (сканстатаванай галасамі прэсы беларускай, украінскай, польскай і расейскай і нікім не запярэчанай), вось-жа пратэставаньне супроць усяго гэтага не дае абсалютна ніякіх падстаў называць кагось „особо упорствующим“ и пагражаць „крайними прещеніями“. Супроць усяго гэтага павінен пратэставаць кожны чэсны пасьледаўнік Хрыста, кожны чэсны чалавек. Супроць кашчунства, гвалту і дэмаралізацыі няраз пратэставалі і пратэстуюць самы-ж Улады Духоўныя, і ніхто ня лічыць іх за гэта „особо упорствующими“, бо гэтага вымагае ад іх маральны абавязак і гэта кожны разумее.

Дзеля гэта і Сьв. Сынод ня можа забараніць сваім пасомым пратэставаць супроць кашчунства, супроць агульнапрызнанага нехрысьціянскага гвалту і зьдзеку, бо гэткая забарона будзе мець характар антыцаркоўны. Сьв. Сынод ня можа вымагаць ад сваіх пасомых пасыўнасьці і маўчаньня там, дзе рушацца асновы Царквы, дзе яна безнаказна прафануецца. Супроць гэтага абавязкам ёсьць (ня толькі пасомых, але і Сьв. Сыноду) пратэставаць, і то пратэставаць як найвастрэй. І дзеля гэтага Сынод, на пратэстуючых супроць кашчунства, не павінен выносіць пастанову аб „крайних прещеніях“, бо гэтым „прещеніям“ падлягаюць якраз робячыя кашчунства, пазорачыя Царкву, засеіваючыя несправядлівасьць, гвалты і зьдзекі.

Само жыцьцё, дабро Царквы і аўтарытэт Сьв. Сыноду вымагаюць бестароньняга і аб'ектыўнага, згоднага з духам Царквы, разьвязаньня ў жыцьці царкоўным справы беларускай, разьвязаньня абапёртага не на „крайних прещеніях“, але на найвялікшай запаведзі Хрыста — любові да бліжніх. Гэтае любові ад Сьв. Сыноду мы толькі і чакаем.

# Комунікат.

На паседжаньні Сьв. Сыноду Аўтокэфальнае Прав. Царквы ў Польшчы дня 17 лютага 1933 г. было разгледжана пытаньне беларусізацыі Прав. Царквы ў Зах. Беларусі, а гэта на падставе шматлікіх просьбаў і мэморыялаў ад беларускага грамадзянства. Падчас разгляду гэных просьбаў было сцьверджана, быццам некаторымі арганізацыямі былі высланы мэморыялы па форме і зьместу вельмі вострыя, дзеля чаго Сьв. Сынод вынес рэзалюцыю, паводле якой, Дух. Улады могуць ужыць адносна віноўных „крайнія прещенія", папярэдзіўшы гэта адпаведным „внушеніем". Віл. Дух. Улады, скваплів а выкарыстоўваючы гэную рэзалюцыю, з мэтаю правядзеньня парахункаў з адзінкамі ім нявыгоднымі, зрыхтавалі адпаведны ўказ, уцягнуўшы туды прозьвішчы асобаў, каторыя належаць да ніжэй падпісаных арганізацыяў.

На падставе вышэйсказанага, ніжэй падпісаныя арганізацыі на супольным паседжаньні іх урадаў, дня 21 мая 1933 г. сцьвердзілі наступнае:

1) Шматгадовая дэструкцыйная дзейнасьць кіраўніцтва Віл. Эпархіі, што сцьверджана бязлікімі галасамі прэсы беларускай і польскай, мэморыяламі ад усіх існуючых беларускіх арганізацыяў (глядзі часопіс „Царква і Народ № 1 і іншыя) давяла на нашых землях царкоўнае жыцьцё да заняпаду, здэмаралізавала духавенства і верных, спрычынілася да ўзросту атэізму, сэктанства, маральнай распушчанасьці, рэлігійнага індэфэрэнтызма. Гэнае застрашваючае зьявішча, калечачае душу Беларускага Народу, трэба было неадкладна і радыкальна спыніць.

2) Запыненьне раскладу гэнага духоўнага аблічча народных масаў, лягло абавязкам, у першую чаргу, на беларускія грамадзкія арганізацыі, якія і сапраўды, ў зьвязку з гэтым, распачынаюць агульную і шырокую акцыю.

3) Адзіным карысным і рэальным сьродкам зьмены вышэй успомненых ненармальнасьцяў была прызнана беларусізацыя духоўнага жыцьця, прынамсі хоць у мінімальным яе ажыцяўленьні. У зьвязку з гэтым, на працягу некалькіх гадоў, вышэйшым Духоўн. Уладам высылаюцца ад імя ўсіх беларускіх арганізацыяў шматлікія мэморыялы, даклады і просьбы, у агульных і падставовых рысах зусім згодныя па зьместу — неадкладная інтэрвэнцыя адносна бурыцеляў Царкоўнага жыцьця і правядзеньне хоць частковае беларусізацыі.

4) Вышэйшыя Дух. Улады да апошняе хвіліны нічога рэальнага і канкрэтнага ў гэтым кірунку не зрабілі, што, ў зьвязку з сталым пагоршаньнем жыцьця царкоўнага, змусіла незалежныя беларускія грамадскія і рэлігійныя арганізацыі, дбаючыя аб духовым абліччы свайго народу, усьпомненыя просьбы свае рэдагаваць у форме рашучых і станоўчых дамаганьняў.

5) Успомненыя дамаганьні, як вынікі ігнараваньня зусім натуральных патрэбаў і просьбаў Беларускага Народу, ня выходзілі аднак па-за рамкі дазволенага—сцьвярджалі існуючае status quo, вымагалі адпаведных рэформаў.

6) На падставе вышэй сказанага, падпісаныя ніжэй арганізацыі да ніякае віны не пачуваюцца, ніякім „внушеніям" і „крайним прещеніям" сябе падлягаючымі ня лічаць, бо дамаганьне дабра Царквы гэта абавязак кожнага праваслаўнага і наадварот, лічаць патрэбным пацягнуць пад „крайнія прещенія" тых, хто безнаказна, на працягу доўгіх гадоў, бурыць царкоўнае жыцьцё, прафануе Сьв. Праваслаўе, дэмаралізуе духавенства і народ.

7) За мэморыялы, падпісаныя прад-

стаўнікамі ніжэй азначаных арганізацыяў, адказваюць ня тыя падпісаўшыя прадстаўнікі, але перадусім рэпрэзэнтаваныя імі арганізацыі, якія, ад імя і з дазволу сваіх выбаршчыкаў, занялі тое, а ня іншае становішча.

8) Ніжэй падпісаныя арганізацыі, здаючы сабе справу з свайго назначэньня і маючы на ўвазе толькі дабро Царквы і Народу, гэтым апавяшчаюць, што з раз абранага шляху барацьбы за дабро Царквы ня зойдуць і ўсё папярэдняе будуць контынуаваць, пакуль ня будуць зьдзейсьнены хоць мінімальна натуральныя правы Беларускага Народу, прызнаныя ўсім культурным сьветам, зусім згодныя з духам Прав. Царквы і навукай Госпада Хрыста.

Вільня, дня 21. V. 1933 г.

Падпісалі:

*Цэнтральны Беларускі Праваслаўны Камітэт у Вільні.*

*Беларуская Праваслаўная Група Студэнтаў У. С. Б. у Вільні.*

*Хаўрус Беларускае Праваслаўнае Моладзі ў Вільні.*

*Аб'еднаньне Прыходскіх Групаў Прав. Беларусаў Віл. Эпархіі.*

*Беларуская Праваслаўная Сябрына Работнікаў у Вільні.*

## „Внушение", „внушители", „внушаемые"...

Сьв. Сынод, на паседжаньні з дн. 17 лютага г. г., слухаў паведамленьне Бл. Мітр. Дзяніса аб тым, што беларусы, ад імя сваіх розных арганізацыяў, пераслалі на рукі Мітр. Дзяніса шэраг дакладаў і заяваў адносна пытаньня беларусізацыі Царквы. Некаторыя з гэных дакладаў былі быццам зрэдагаваны ў форме вельмі вострай. Вось-жа, па гэнаму пытаньню Сьв. Сынод выняс наступныя рэзалюцыі. 1) „Просить Бл. Митр. Дионисия дать ответ на обращенные к Его Блаженству мемориалы сообразно мнению, установленному в этом вопросе Св. Синодом", 2) „Поручить Вил. Епарх. Начальству представить Св. Синоду свои соображения о практическом осуществлении тех из заявленных пожеланий, которыя признаются им подлежащими удовлетворению", 3) „Поручить сему Начальству принять зависящия меры церковнага внушения к прекращению подобных, вышеописанных, недопустимых выступлений со стороны представителей белорусской общественности гор. Вильны, а, в случае неуспешности сих мер, войти с представлением в Св. Синод о применении к особо упорствующим более суровых средств, вплоть до крайних прещений".

Нас асабліва цікавіць пункт 3 гэнае пастановы. Цікавіць таму, што Дух. Улада гатова яго зьдзейсьніць хоць і сяньня, між тым як першыя два пункты, гэта толькі дыплёматычны рэвэранс, які ніякай рэалізацыі не падляжыць. А што гэта так, можна было ўжо пераканацца. Мінае ўжо каторы месяц, а абяцанага адказу Мітр. Дзяніса ніхто яшчэ ня бачыў. „Соображнния" Віл. Эпарх. Начальства адносна практычнага здаволеньня просьбаў беларусаў ведамы ўжо добра і Сьв. Сыноду і нам. „Никаких белоруссов нет!", вось „соображения" арх. Хвядоса і яго Эпарх. Начальства ў асобах прат. прат. Дзічкоўскага, Тучэмскага, і інш. А паводле гэнага „соображения" выцякалі і выцякаюць усе іншыя іх „соображения". Агулам кажучы, першыя два пункты для нас, беларусаў, ня істотныя. Значэньне іх у тым толькі, што нарэшце Сьв. Сынод афіцыяльна здэцыдаваўся запазнацца з „соображениями" Віл. Эпарх. Начальства, з „соображениями", якія сяньня ўжо ведамы ўсяму сьвету, апрача... нашых Выш. Дух. Уладаў, з „соображениями", якія царкоўнае жыцьцё на Беларусі амаль зьнішчылі да шчэнту.

Пункт 3, успомненае пастановы,

гаворачый аб „внушении“ і „крайних прещениях“, нашае „Эпарх. Начальства“ зрэалізаваць гатова напэўна хоць і сяньня з цэлай сатысфакцыей сваіх хворых „соображений“ і амбіцыяў. За гэнае пазваленьне ўжытку „крайних прещений“ адносна „особо упорствующих“ нашае Начальства ўдзячна Сьв. Сыноду сэрцам і душой. Адно толькі няшчасьце для нашых „внушителей“, *што „особо упорствующия“ гэта ўся мільённая грамада Зах. Беларусі,* якая свой упор, сваё змаганьне за права на жыцьцё, сваё імкненьне да прабываньня ў Царкве з Хрыстом, а ня з дзікім палітыканствам, якая ўсё гэта будзе кантынуоваць пакуль не дабьецца свайго. Наша Начальства ў сіле зрабіць ужытак з дазволу кіданьня „крайних прещений“ адносна адзінак. Але-ж гэныя адзінкі выбраныя народам, зараз-жа заменяцца іншымі, у яшчэ большым ліку. Запыніць *будзячуюся стыхію* Начальства ня зможа. Можа толькі стацца тое, што Начальства апыніцца само сабе Начальствам. Бо гэная стыхія, гэных „особо упорствующих“ Аўтокэфальная Царква ў Польшчы лічыць 95% ўсіх верных і толькі 5% з успомненымі „соображениями“. Тым больш, што нашым „внушителям“ даўно ўжо час самым „внушиться“ ісьцінам Хрыстовым, Хрыстовай любові і справядлівасьці, Хрыстоваму „несть эллина, ни иудея“. Агулам кажучы, Выш. Дух. Улада павінна неадкладна ўспомнены пункт 3, гэнае непрадуманае іграньне з агнём, адклікаць і замяніць яго ўчынкам згодным з духам навукі Хрыстовай і Царквы, згодным з духам Аўтокэфальнае, Праваслаўнае Царквы ў Польшчы.

Супакой і лад, дабрабыт і працьвітаньне здабываюцца *ня страхам* і *праклёнамі,* а Хрыстовай любоўю праўды і справядлівасьці. Хто-ж ваюе мячом, той ад мяча і гіне! **Зн.**

# У справе вікарнага Епіскапа.

Аб прызначэньні ў Віл. Эпархію вікарнага епіскапа гаварылася ўжо шмат разоў. Сяньня справа гэтая, здаецца, знайшлася ў праддзень дэфінітыўнае разьвязкі. Прынамсі ў Вільні на гэту тэму шмат гаворыцца, а нават вышуківаецца ўжо і адпаведнае памешканьне. Факт магчымасьці назначэньня вікарнага епіскапа выклікаў зусім зразумелае агульнае зацікаўленьне. Адны да гэтага адносяцца прыхільна і гэтых большасьць, другія наадварот — нэгатыўна. Гэтых апошніх праўда ня шмат, але яны сваю нездаволенасьць выяўляюць даволі энэргічна. Пераважна гэта паклоньнікі архім Савація і прат. Дзічкоўскага, лепш кажучы — узурпатараў Эпарх. Улады. Бо трэба ведаць, што архім. Саваці, самавольна найменаваўшы сябе настаяцелям Сьв. Духава манастыра, завёўшы сабе архірэйскі жэзл, абразы на мантыі, змусіўшы послушнікаў (нават і пры арх. Хвядосе) насіць за сабой канцы мантыі, пяяць сабе на спатканьне »Достойно есть...“, заняўшы памешканьне (5 пакояў) вікарнага епіскапа, выступае амаль афіцыяльна як вікарны Віл. Эпархіі. Зразумела, гутаркі аб вікарным епіскапе напалохалі ў першую чаргу архім. Савація і тых, хто праз яго выкарыстоўвае, для мэтаў асабістых старасьць і кволасьць характару арх. Хвядоса.

Аднак гэткіх ня шмат. Беспараўнальная большасьць факт назначэньня вікарнага епіскапа ў нашу Эпархію толькі вітае. Беларускае грамадзянства з гэтым таксама згаджаецца, адно з пэўнымі засьцярогамі. Справа тут у тым, хто гэтым вікарным будзе. Бо калі назначэньне вікарнага епіскапа да нас падыктавана руплівасьцю аб дабры Царквы і жаданьнем упарадкаваць, да немагчымасьці зруйнаване жыцьцё Эпархіі, то тады асоба вікарнага епіскапа павінна была-бы адпавядаць наступным варункам. Перадусім безгранічная любоў да Царквы і пасомых, справядлі-

васьць і сумленнасьць, зразуменьне імкненьняў Беларускага Народу і што галоўней, не падтрымоўваньне палітыкі коштам Царквы. Гаворачы канкрэтна, беларусы ад новага епіскапа вымагаюць каб прынёс з сабой у сэрцы любоў, а ня ненавісьць, каб у сваёй працы абапёрся на народ і яго любоў да Сьв. Праваслаўя, а не на жменьку палітыканаў, дабіваючыхся ўскрасіць памершае.

Гэткія ёсьць, гаворачы агульнікова, засьцярогі што да асобы новага епіскапа. *Назначэньне асобы з іншымі мэтамі ці інструкцыямі беларусы палічаць як дальшы цяг дэманстрацыяў адносна іх і з гэткім назначэньнем не пагодзяцца.*

На наш пагляд назначэньне ў Віл. Эпархію новага епіскапа павінна адбыцца прынамсі пры пэўным паразуменьні (характару дарадчага) з прадстаўнікамі бел. царкоўнага грамадзянства. Гэткае паразуменьне адбілася-бы карысна на зьбліжэньні духавенства з народам, запабегла-бы непатрэбным непаразуменьням, а можа і выступленьням і так ужо падарваўшым у нас роўнавагу царкоўнага жыцьця.

Словам, усё залежыць ад добрае волі Выш. Дух. Уладаў, а што яны зробяць — пабачым у недалёкай будучыні.

*Sic.*

---

# ХРОНІКА.

✕ 8-14 жніўня 1932 г. у Пачаеўскай Лаўры адбыліся першыя Мітрапалітальныя Законавучыцельскія Курсы, на якія зьехалася блізу 100 законавучыцеляў з усіх канцоў Мітраполіі. На курсах гэных быў вынесены цэлы рад рэзалюцыяў, як напрыклад, пастаноўлена прасіць Выш. Дух. Уладу зрабіць захады дзеля ўвядзеньня ў школах выкладаньня (як асобнага прадмету) матчынай мовы вучняў. Гэта-ж дзеля таго, каб вучні маглі лепш разумець падручнікі Закону Божага, які мае выкладацца ў мове роднай вучня. Таксама пастаноўлена прасіць аб выданьні малітваслоў у славянскай мове з перакладам на мову вучня. У гэтым сэнсе вынесены яшчэ і іншыя рэзалюцыі.

Прынцыпова думкі гэныя трэба толькі шчыра вітаць. Адно шкада, што бадай ўсе, выносячыя падобныя рэзалюцыі, ў практыцы зьяўляюцца ворагамі ўсяго гэтага. А ўсё робіцца толькі таму, каб неяк падняць свой прэстыж. Нам здаецца, што пустымі пастановамі ён толькі яшчэ больш паніжаецца.

✕ У верасьні мінулага году па загаду Віл.Дух. Улады выехаў з Вільні ў Пастаўшчыну сьв. А. Коўш,—колькігадовая ахвяра распанасіўшагася элеўфэрыянства і кушнёўшчыны. На станцыі, перад самым ад'ездам сьв. А. Каўша, сабраліся прадстаўнікі ад моладзі і грамадзянства, шчыра разьвітываючыся з гэтым добрым пастырам і добрым беларусам.

Здавалася-бы гэты выезд трэба лічыць як перамогу нехрысьціянскіх і цёмных сілаў. Аднак так ня ёсьць! Прымушаньне сьв. А. Каўша навыезд толькі сьцьвердзіла, як гэтага чалавека баяцца ў Вільні, а значыць, як гэты чалавек моцны духам і ў праўдзе. Маральна яго не перамаглі, прэстыж яго ў народзе яшчэ больш узьнялі, чаго доказам хоцьбы тая безьліч лістоў аб ім, якія прыходзяць у Вільню, а часамі і публікуюцца.

———

✕ 20.XI.32 г. адбыўся акружны зьезд Т. Б. Ш. (Т-ва Беларускае Школы) Беластоцкага Ваяводзтва. Пасьля адпаведных прамоваў, маючых выказаць „благонадёжность“ Т. Б. Ш., д-р Марцінчык адчытаў рэзалюцыю, якая радзіць паасобным сябром навязаць супрацоўніцтва з польскімі арганізацыямі, а таксама вельмі падкрэсьлівае сваю лёяльнасьць.

Дзівіць нас тут адно—гэта нешчасьлівае для нашага народу хістаньне з боку ў бок. І здаецца-ж спэцыяльных

акрабатычных здольнасьцяў беларусы ня маюць, а аднак... Ці-ж ня лепш былобы здэцыдавана і раз на заўсёды заняць сярэдзіну, залатую беларускую сярэдзіну?

———

X У канцы мінулага году памёр добра знаны Віл. Эпархіі прат. Кушнёў. Зразумела, чалавек, які справу і дабро Царквы падпарадкавываў сваім хворым амбіцыям, вялікага спачуцьця мець ня мог. Найлепш гэта выявілася пасьля яго сьмерці, калі яго б. кумпаны намагаліся стварыць хоць штучны „парад". Гэтак адпаведна прасьлёзьненыя прамовы сказалі прат. Дзічкоўскі і сьв. Балай, ды апрача таго... б. сэнатар Багдановіч. Апошні зусім нядвузначна сказаў аб лучыўшай яго сувязі з памёршым аж да апошняе хвіліны. А як памятаем, Выш. Дух. Улады ў Польшчы забаранілі ня толькі духавенству, але нават і міранам мець хоць найменш нявінныя зносіны з элеўфэрыянцамі, у той час як гр. Багдановіч зьяўляецца стаўпом элеўфэрыянства. Калі-ж аб усім гэтым было пасьля хаўтураў напомнена арх. Хвядосу, то ён адказаў „відно так нужно", зусім і няскрываючы сваёй староннасьці ў адносінах да элеўфэрыянства. Характарна тут і тое, што ўспомненыя прат. Дзічкоўскі і сьв. Балай зараз, пасьля сваіх прамоваў,атрымалі—першы выстаўленьне кандыдатуры ў Кансысторыю, другі — пратаіерэйства. Словам, прат. Кушнёў памёр, але няслаўная кушнёўшчына яшчэ жыве. Вось-жа з ёй беларусы і будуць змагацца да апошняга.

———

X З пачатку гэнага году расейская мова ў Віл. Дух. Сэмінарыі пачала лічыцца як прадмет не абавязкавы. Шкада адно, што гэта толькі на паперы, бо ў сапраўднасьці там ёсьць крыху іначай. Аднак наразе нічога яшчэ аб гэтым ня пішам, усьцяж яшчэ ўзіраемся на а. рэктара. Пачакаць крыху яшчэ можна!

———

X Ня гэтак даўна ведамы на грунце віленскім „акадэмік" (якому значок акадэміцкі Улады Дух. зьнялі) прат. Дзічкоўскі вельмі разахвоціўся на становішча сябры Віл. Кансысторыі. Пры дапамозе падобнага „акадэміка" архім. Савація (свайго чалавека) кандыдатура прат. Дзічкоўскага знайшла гарачае падтрыманьне ў арх. Хвядоса, мала таго, прат. Дзічкоўскі, каб падгатаваць сабе больш мацнейшы грунт, скіроўваецца да ўладаў сьвецкіх, а на помач бярэ сабе... каталіцкага ксяндза.

Як ведама, усе гэныя яго захады былі дарэмнымі, бо ў кансысторыю ня трапіў, хоць-жа пажаданьні, як сябра кансысторыі, ўжо прыймаў. А што ня трапіў туды, дык гэта зусім будзе зразумелым, калі прыпомнім сабе, што прат. Дзічкоўскі ў 1923 г. заявіў, што сябрам кансысторыі ў Аўтокэфальнай Прав. Царкве ў Польшчы ніколі ня будзе. Што-ж, шкадаваць гэтага мы ня будзем!

———

„Архимандритъ Савватій Настоятель Свято-Духова Монастыря. Вильно, Остробрамская 10. Христосъ Воскресе! Сердечно привѣтствую съ свѣтлымъ праздникомъ Христова Воскресенія 1933 г. 3. IV. Гэткага зьместу візытныя картачкі рассылае архім. Савацi духавенству, а адна з іх трапіла і нам. Зьвярнула яна нашу ўвагу з наступных прычын. Як ведама, кар'ера архім. Савація распачалася ад важэньня епіскапаў, а там ужо ад анальфабэта—паслушніка да анальфабэта—архімандрыта пайшло ўсё зусім лёгка. Жадаючы аднак свой анальфабэтызм прыкрыць вонкавым блескам, архім. Савацi завёў мантыю з абразамі, жэзл архірэйскі (толькі куды вышэйшы), змушае насіць канцы сваёй мантыі, пець сабе на спатканьне „Достойно есть", служыць пераважна сам адзін урачыстыя службы, засеў у памешканьні (5 пакояў) вікарнага епіскапа і т. п. Але, як бачым, архім. Савацію мала яшчэ ўсяго гэтага, і ён, найспакайней у сьвеце, робіць сабе візытныя картачкі, на якіх імянуе сябе „Настоятелем" Сьв.-Дух. Монастыря", зусім забыўшыся, што настаяцелем лічыцца арх. Хвядос, а ён... толькі намесьнік, становішча і так вялікае, як на анальфабэта.

Вось-жа, нам здаецца, што архім. Саваці нічым ня прыкрые свайго анальфабэтызму і ўжо вышэй яго ня скочыць, каб нават пачаў лічыць сябе і архірэям. Дык на што тады асьмяшацца? Ці ня лепш сапраўды Богу маліцца і дзякаваць за Яго доўгацярплівасьць?

———

✕ У ліпені г. г. старшыня Ц. Б. П. К. выяжджае спачатку на люстрацыю аддзелаў Камітэту ў Віл. Эпархіі, затым накіруецца ў Горадзенскую Эпархію, дзе маюць адбыцца зьезды прав. беларусаў і закладзіны мяйсцовых Камітэтаў.

———

✕ З нагоды сёлеташніх юбілеяў Мітр. Дзяніса, у Вільні была зладжана акадэмія. З прычыны агульнага байкоту гэтае ўрачыстасьці, прызнанае украінскім і беларускім грамадзянствам за дэманстрацыю жменькі палітыканаў, і ў Вільні відаў на паводжаньне яна ня мела. Вось-жа, зладжаньнем яе заняліся з абавязку адзінкі з Віл. Эпарх. кіраўніцтва. Ад беларусаў на гэтую акадэмію зьявіўся... толькі Р. Астроўскі, які, урэшце, таксама з абавязку бывае заўсёды там, дзе шырокія кругі бел. грамадзянства адмаўляюцца быць. Але нават і гэты п. Астроўскі ў сваім прывітаньні хоць-жа спачатку па традыцыі і „разьліваўся салаў'ём“, то пры канцы зазначыў зусім адкрыта, што цешыцца беларусам з гэтых юбілеяў няма падставаў, бо Уладыкаю Мітрапалітам для беларусаў нічога ня зроблена... Падобнае заканчэньне зрабіў і п. Смаржэўскі, вучыцель Віл. Дух. Сэмінарыі, „истинно-русс“. Аб прысутных на акадэміі ня прыходзіцца гаварыць, але нам здаецца, каб Уладыка Мітрапаліт мог наперад гэную Акадэмію неяк убачыць, то напэўна забараніў-бы яе ладзіць.

Словам, правал па ўсёй лініі. Нягодна надужыта імя Блаж. Мітрапаліта Дзяніса, нягодна паставілі яго асобу ў палажэньне вельмі і вельмі прыкрае, калі не кампрамітуючае.

Гэта, нам здаецца, для Мітрапаліта Дзяніса павінна быць паказальным. Масы народныя свайго Архіпастыра ў такое палажэньне напэўна не паставілі-бы. Жменька палітыканаў гэтага не ўбаялася.

А ўсё мае свае граніцы!

———

✕ У траўні месяцы г. г. навязаны зносіны між Цэнтр. Бел. Прав. Камітэтам і Т-вам ім. Мітр. П. Магілы ў Наваградку, а гэта ў справе магчымасьці намечаньня шляхоў працы на ніве царкоўнай.

———

✕ Апошнім часам далучыўся да Вуніі б. інспэктар Віл. Дух. Сэмінарыі, акадэмік В. Артемьев, які мае выехаць у Альбэртын, дзе ў вун. мал. сэмінарыі мае выкладаць расейскую мову.

———

✕ У прадапошнім нумары „Бел. Крыніцы“ Бел. Нацыянальны Камітэт зьмясьціў на імя Блаж. Мітр. Дзяніса абшырны мэморыял, сьцьвярджаючы сыстэматычнае ігнараваньне просьбаў і патрэбаў бел. грамадзянства і неабходнасьць спыненьня гэтага.

———

✕ Ведамы на грунце беларускім „дырэктар“, бяз вучыцельскае кваліфікацыі, Міхалевіч, страціўшы месца ў Бел. Гімназіі, пачаў рабіць захады, каб неяк дастацца ў Віл. Кансысторыю. Выш. Улады Дух. на гэта не павінны згадзіцца, калі не жадаюць выклікаць яшчэ вялікшага абурэньня і так ужо абуранага бел. грамадзянства. Элемэнтам маральна здыскрэдытаваным доступ у кансысторыю павінен быць зачыненым.

———

✕ У адносінах арх. Хвядоса да Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту ўвесь час наступаюць зьмены. То ўжо арх. Хвядос багаслаўляе Камітэт за яго імкненьне да сужыцьця духавенства з народам, прымае прадстаўнікоў Камітэту і гэты прызнае, то ізноў прадстаўнікоў Цэнтр. Бел. Прав. Камітэту прыймае і гаворыць аб працах Камітэту (як было апошнім

разам), а адначасна гэты апошні не прызнае, як гэта ўсё вытлумачыць? На гэтае пытаньне мы сяньня адказ ужо маем. Арх. Хвядос быў папросту „жертвой“ „высшей политики“.

Балюча падумаць, каб можна было так нясумленна выкарыстоўваць старасьць арх. Хвядоса, падстаўляць яго пад удары, а самым... пілатаўскі ўмываць рукі...

Мэтады колішняе холмшчыны ажыцяўляюць элеўфэрыянства і кушнёўшчына!

---

Х Апошнімі часамі шмат гаворыцца аб назначэньні ў Вільню вікарнага епіскапа. Успамінаецца ўжо нават і асоба епіскапа Сімана, вікарыя крэменецкага. Вось-жа гэныя чуткі асабліва напалохалі ведамага ўсім „настаяцеля“ Сьв. Дух. Манастыра, „акадэміка“ архім. Савацiя, які публічна заяўляе, што сваіх пяць пакояў (пад памешканьнем арх. Хвядоса) новаму епіскапу ні за што не адступіць. Хай, гаворыць архім. Савацi, арх. Хвядос выбярэ з банку 12.000 даляраў, выручаных ад прадажы б. архірэйскіх дамоў, і за гэтыя грошы раздабудзе адпаведнае памешканьне. Урэшце-ж за адны толькі працэнты ад гэтае сумы можна мець дасканальнае памешканьне. Добрая думка! Сапраўды, калі „настаяцелю“, „акадэміку“ і манаху архім. Савацію трэба пяць пакояў, то на што-ж яго крыўдзіць ды адбіраць ад яго гэныя пакоі. Грошы ёсьць—можна купіць новы дом для вікарыя. Чаму--ж арх. Хвядос, ці хто іншы можа мець пяць пакояў, а архім. Савацію ня можна гэтага мець?

---

Х У зьвязку з апошнім сьвятам зьявіўся ў Вільні ведамы (з папярэдніх нумароў нашае часопісі) сьв. Зубовіч, злажыў на рукі арх. Хвядоса 200 зал. і свой рапарт, дамагаючыся сабе награды. Арх. Хвядос, паміма нязгоды некаторых сяброў Кансысторыі, прызнаў сьв. Зубовічу адразу аж дзьве награды, а іменна — скуфью і камілаўку. Хутка і гладка! Трэба ведаць, што ў паслужным сьпіску сьв. Зубовіча, у рубруцэ аб адукацыі значыцца аб сканчэньні ім камісарскае школы.

---

Х У зьвязку з ведамай пастановай Сьв. Сыноду аб „крайних прещеніях, Віл. Кансысторыя ўсьцяж намагаецца каго-колечы „внушить“. Асабліва стараюцца тут ведамы „акадэмік“ прат. Дзічкоўскі і архім. Саваці. Хоцьжа якраз аднаго і другога трэба было даўно ўжо „внушить“. Падставаў да гэтага ёсьць аж за шмат. Нам здаецца. што лепш ім сядзець ціха і ня змушаць людзей выносіць на старонкі прэсы факты, апублікаваньне якіх можа для абодвух вельмі зашкодзіць.

---

Х Хоць-жа Сьв. Сынод і не зацьвердзіў прат. Дзічкоўскага сябрам Кансысторыі, то ён, аднак, і да сяньня ў Кансысторыю ходзіць, не дапушчаючы туды асобу, зацьверджаную Сьв. Сынодам. Арх. Хвядос, вымагаючы паслухмянасьці ад сваіх пасомых, павінен навучыцца наперад сам быць паслухмяным і выконываць загады Сьв. Сыноду. У праціўным выпадку, сам арх. Хвядос паніжае аўтарытэт і павагу Сьв. Сыноду. Свае амбіцыі і свой упор трэба падпарадкаваць дабру Царквы!

---

Х Паводле вестак расейскае прэсы, у першых днёх ліпеня мае адбыцца чароднае паседжаньне Сьв. Сыноду. На паседжаньні мае быць разгледжаны мэморыял Беларускага Нацыянальнага Камітэту і Юбілейнага Камітэту па сьвяткаваньню XV-ых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Мэморыял гэты быў апублікаваны на старонках „Бел. Крыніцы“.

Беларускае пытаньне на паседжаньні Сьв. Сыноду трапляла ня раз. Аднак да сяньня нічога канкрэтнага ня зроблена. Вось-жа беларусы чакаюць, што нарэшце, хоць можа сяньня, Сьв. Сынод займе па гэтаму пытаньню становішча больш згоднае з духам царквы і праўды.

Ужо вялікі час направіць векавую крыўду Беларускага Народу.

# Голас народу.

*Рускае Сяло. Вялейшчына.* На трэці дзень Сёмухі адбылося ў нас асьвяшчэньне новаадбудаванае Царквы. На гэную ўрачыстасьць зьехалася шмат духавенства і народу. З Вільні, як гаварылі, меўся нават прыехаць сам Уладыка Хвядос. Але чамусьці ня прыехаў; ходзяць чуткі быццам Уладыка нездаровы. Прыехаў затое яшчэ большы ад Уладыкі архірэй. У руках меў ён яшчэ вышэйшы за архірэйскі жэзл, а на мантыі дык панашываны былі папросту абразы. Нашы некаторыя бабы, як пабачылі яго, дык бух на каленкі і давай хрысьціцца. Духавенства таксама перад ім лётала. Усе верныя зацікавіліся—хто гэта такі будзе, ці ня сам Уладыка з Варшавы. Але пасьля усё выясьнілася. Адзін хлапец (служыўшы ў салдатах у Вільні) расказаў нам, што гэта архім. Саваці, які хоць і выйшаў з нашага народу, але яго цураецца і ня любіць. Увесь наш сьвяточны настрой зьгінуў, бо калі ён нас цураецца, то на што да нас едзе. А тут гэты хлапец расказаў нам яшчэ, што гэты архім. Саваці папрадаваў быццам нейкія абразы і за гэтыя грошы справіў сабе такі жэзл і абразы на мантыі і то самавольна. Гаварыў таксама, што ўсе беларусы з Вільні яго ня любяць і змагаюцца з ім. Усе гэныя гутаркі хутка разыйшліся па ўсім народзе, парабіліся грамады і давай усе радзіцца, што рабіць. Шмат гаварылі, але нічога не змаглі прыдумаць, толькі маладыя з нас насьмяяліся. Расходзіліся мы па хатах як быццам пасьля якіх хаўтураў, неяк і цяжка было на сэрцы і чагось сумна.

Ці праўду казаў той хлапец аб архім. Савацію? **К. П.**

—·—

*Ад рэдакцыі:* Хіба-ж ён ведаў што гаварыў. Ды аб гэтым у Вільні пачуеце ад кожнага!

—·—

*Крывічы.* Калісь, а можа і сяньня сярод іншых народаў, людзям, якія шчыра працавалі для дабра Царквы, Выш. Улады давалі нагароды. Бачылі гэта людзі і цешыліся, што іх добры сьвяшчэньнік за сваю працу атрымаў належную нагароду. І ніколі ня было чутно, каб нагароду атрымлівалі людзі, якія разбуралі Цэрквы, або дэмаралізавалі народ. І гэта зразумела, бо рабіць дабро ня кожны зможа, а тварыць зло вельмі лёгка і таму, калі·б пачалі награждаць за благія ўчынкі, то сьвет стаўся-бы пеклам. Але сяньня мы пабачылі іншае! Ёсьць тут у нас „слаўны“ духаўнік Спрогіс, чалавек, які прадаў Хрыста за камісарства. І што-ж, яго ня толькі не пакаралі за гэта, але зрабілі благачынным, а сяньня ўжо і пратаіерэям. Бачаць гэта людзі і надзівіцца ня могуць. „Ідзі ў бязбожнікі, зробяць архірэям пасьля“, жартуюць нашы сяляне, але ад гэтых жартаў сьлёзы ліюцца. Бо падумаць, што чалавек, які так апазорыў Царкву, засудзіў людзей за сьпяваньне ў Царкве „Отча Наш“, зьдзірству ня мае граніц, гэты чалавек за сваё ўмелае душэньне беларусаў, за ўмелае падпарадкаваньне Царквы палітыцэ, атрымоўвае нагароды. І хай-жа Духоўныя Улады пасьля гэтага не ўскладаюць віны ані на атэістаў, ані на сэктантаў, ані на вуніятаў, бо яны самі змушаюць нас ня верыць у Бога і яго справядлівасьць, хадзіць у Царкву, любіць праўду. Ня ўжо-ж няма цяпер справядлівасьці на сьвеце, ня ўжо аб гэтым ня ведае мітр. Дзяніс?

**Праваслаўны.**

—·—

*Наваградак.* Цікавячыся надзвычай жыцьцём праваслаўнае царквы, я зырка прыглядаюся да ўсяго, што ў гэтай плошчы адбываецца. Мае назіраньні аднак вельмі сумны; сумны, бо я, як шчыры хрысьціянін і праваслаўны, хацеў-бы бачыць росквіт царквы, а бачу толькі няўпынны заняпад жыцьця рэлігійнага.

Ужо даволі шмат часу прайшло, як тут у нас было закладзена Т-ва ім.

Мітр. П. Магілы. І трэба сказаць, што пакладзеных надзеяў гэнае Т-ва не апраўдала. Шырокіх масаў да сябе яно не прыцягнула. Таварыства гэнае папросту безнадзейна вэгэтуе. Чаму? А проста таму, што ў праграму гэтага Таварыства не ўваходзіць пытаньне спосабаў унармаваньня суадносінаў духавенства і верных на Беларусі, між тым, як без разьвязаньня гэтага пытаньня, ніякая праца на грунце рэлігійным ніякіх вынікаў ня дасьць. Ня дасьць, бо сучаснае наша духавенства адпаведна настаўленае сваёй гіерархіяй, адарвана ад народу, гэны апошні, бачучы на ўлоньні царквы толькі палітыку, да ўсялякае царкоўнае акцыі адносіцца з засьцярогамі, а то і проста варожа. „Даюць нам Т-вы Магілы, а нашу мову і нас асьмеіваюць,—гатуюць нам магілу!“—вось сказ, які мне часта прыходзіцца чуць у гутарцы з народам. Асабліва цяжкае ўражаньне выклікала апошняя пастанова Сьв. Сыноду, дазваляючая мяйсцовым уладам ужываць „крайнія прещенія“ адносна беларусаў за іх шматгадовыя просьбы найпрымітыўнейшае справядлівасьці. Улады дзяржаўныя і тыя ніколі не абыйшліся з намі так жорстка, як гэта зрабілі ўлады духоўныя, замест таго, каб выказаць найменшы праяў любові, якую фарысэйскі прапаведуюць і цынічна топчуць. Мне здаецца, нашы духоўныя ўлады страхам і анафэмамі пытаньня беларускага не разьвяжуць, зусім зразумелых і натуральных дамаганьняў не запыняць, як не змаглі запыніць гэтага савецкія ўлады, нават кашмарнае ГПУ. Урэшце, канкураваць у гэтым нашым дух. уладам з ГПУ проста ня выпадае, тым больш, што гэта ніякае карысьці не прынясе, а шкоды наробіць на цэлыя сталецьці. Урэшце, гэныя анафэмы сяньня так спопулярызаваліся, іх сяньня столькі кладзецца, што яны ўжо ніякага ўражаньня не робяць і народ, чамусьці, да падпаўшых пад анафэму адносіцца з яшчэ вялікшай пашанай. Успомнім хоць-бы забарону каталіцкіх дух. уладаў чытаньня ведамае беларускае газэты „Беларуская Крыніца“. Яе ня толькі не перасталі чытаць, але якраз найбольш пачалі выпісываць і то каталікі. Гэта-ж усё пытаньня беларускага з парадку дня ня здыймае, але робіць яго больш актуальным і папулярным. Між тым, як справа рэлігійная на гэтым шмат церпіць. Народ у сваёй сьвядомасьці гвалцячых царкву лучыць з самой царквой і адносіны да гэтых першых расьцягвае і на царкву. Канчаючы гэныя свае спасьцярогі, мне хочацца сказаць — кулямі і анафэмамі нас не застрашаць, зьгінуць і пацерпяць нас соткі, але ўсё-ж яшчэ астануцца мільёны, якія нашыя ахвяры помсьцяць. Царква павінна нас вучыць любові і праўдзе, але ня гвалту і праклёнам.

**Праваслаўны беларус.**

—·—

*Ваўкавыск.* Гарадок наш можна лічыць у 100% беларускім. Жыхары яго гавораць толькі па-беларуску. Нават урадоўцы палякі і тыя часта змушаны гаварыць па-беларуску. Праваслаўных у нас шмат, але шмат і каталікоў, аднак, як адны, так і другія ў 90% сьведамыя беларусы, між тым, калі пабываць у Царкве нашай, то можна падумаць, што ў нас расейцы. Справа ў тым, што ёсьць у нас ў царкве абраз Маці Божае, абраз пераносны. Вось-жа на гэтым абразе прымацаваны вялікія какарды із стужкаў, коляру даваенных царскіх флягаў. Па якое ліха гэтыя стужкі ўцэплены на абраз, адказаць цяжка. Можа таму, што папярэднік сучаснага настаяцеля Царквы быў засьлепленым расейцам манархістам? Можа таму, што сучасны настаяцель а. Хоміч хоць і есьць беларускі хлеб, але беларусаў ненавідзіць? Словам, адказаць цяжка. Аб гэтым гаварылася тут ужо шмат, але што нашы гутаркі, нам убіваюць у галаву толькі аб „рускай веры“, а больш аб нічым і ня хочуць ведаць. Цяжка на ўсё гэта глядзець і ўсё гэта пераживаць, але ня гэтулькі мы выцярпелі,ператрываем і гэную напасьць. А Бог дасьць лепшы час і ма за свае крыўды, за ўсе гэныя, нас абражаючыя, дэманстрацыі адплацім, як гавораць палякі „pięknem za nadobne“.

Праўда, хрысьціянін ня можа мець у сэрцы ненавісьці і помсты, але-ж гэтаму нас вучаць нашы айцы духоўныя і за гэта хай Бог іх ўдвая больш асудзіць. **Ів. Гр.**

———

*Маладэчна.* „Материнский язык“, што па нашаму значыць – матчына мова, стаўся за апошнія гады ў кругох нашага духавенства тэрмінам надзвычай модным. Гэты тэрмін мы часта спаткаем і ў пастановах Сьв. Сыноду, і ў адозвах Мітр. Дзяніса, і ў рэзалюцыях прадсаборчага Сабраньня, і ў рэзалюцыях мітрапалітальных Законавучыцельскіх Курсаў, і на зьездах благачынных, і ў „Воскресном Чтении“, словам тэрмін гэты стаўся вельмі модным. А як ведаем, што моднае, тое заўсёды бяздушнае — так яно і тут ёсьць. Крыку і шуму шмат, але рэальнае карысьці ад гэтага ніякае. Бо ў той час, як публічна „материнскому языку“ прызнаюцца ўжо аж наднатуральныя правы, калі яго значэньне і неабходнасьць у царкоўным жыцьці прызнаюцца і разглядаюцца на ўсе лады і спосабы, у той час, у жыцьці штодзенным, у беларускай, або ўкраінскай вёсцы „материнский язык“ у інтэрпрэтацыі наплывовага духавенства, гэта папросту „русский язык“. І хоць Сьв. Сынод выносіць адпаведныя пастановы, Мітр. Дзяніс выдае свае адозвы, заклікаючыя да ўжываньня духавенствам „материнскаго языка“, аднак сьвяшчэньнік сваё робіць і сьмяецца, бо-ж добра ведае, як усе гэтыя публічныя пастановы трэба разумець фактычна. І сапраўды, хай толькі адважыўся-бы ўвесьці ў жыцьцё хоць якую колечы з гэтых публічна пракрычаных рэзалюцыяў, адносна „материнскаго языка“, то ўжо на заўтра страціць прыход і хлеб.

Таму, да сяньня „материнским языком“ і ў нас, і ў украінцаў лічыцца гвалтам накінутая расейшчына. Мала таго, са шкодаю для Царквы і верных гэны „материнский язык“ насаджаецца гвалтам, культывуецца пад аховам аўтарытэту Царквы. Калі-ж гэта не ўдаецца, то хутчэй выкарыстоўваецца мова польская, але ніколі сапраўдная мова верных. Да сяньня ў нас, у Зах. Беларусі, няма ніводнага мітрапалітальнага падручніка ў мове беларускай, хоць-жа у расейскай і польскай мовах насылаюць аж за шмат.

Бязумоўна гэная двудушная палітыка адносна „материнскаго языка“ адбіваецца на царкоўным жыцьці народу вельмі і вельмі некарысна. Аўтарытэт і павага Уладаў Духоўных падарваны ў народзе да немагчымасьці. Але ня гледзячы на ўсё гэта, афіцыяльнае зводжаньне верных і заграніцы „материнким языком, ня спыняецца, як ня спыняецца і замаскаваная барацьба з мовамі пануючымі сярод беспараўнаньня вялікшае часьціны вернікаў Прав. Царквы ў Польшчы.

**Хв. Калінец.**

———

*Горадня.* Ёсьць у Вільні расейская гімназія імяні С. Пушкіна. Ня гэтак яшчэ даўно ў ёй вучыліся адны дзяўчаты сяньня гімназія гэта зьмешаная. Аднак лік дзяўчатаў і да сяньня становіць большасьць. Вучацца там пераважна дочкі духавенства і псаломшчыкаў. Гімназія гэта мела быць падобнай да перадваеннай жаночай эпархіяльнай школы, якія гатавалі будучых матушак. Пры закладаньні гэтае гімназіі на духавенства быў нават наложаны пэўны падатак, які ішоў на карысьць гэтае школы. І сапраўды большасьць вучаніц з гімназіі імя Пушкіна парабілася сяньня матушкамі. Адно няшчасьце, што гэтыя матушкі, узгадоўваныя праз восем гадоў у духу ненавісьці да Беларускага Народу, свайму назначэньню не адпавядаюць. Яны ня толькі ня могуць памагчы сваім мужом-сьвяшчэньнікам у злагоджаньні канфліктаў з народам, але яшчэ больш заагняюць. Словам, дзякуючы гэткім узгадаваўцам, як п. Пасьпелава, прат. Дзічкоўскі і іншыя, маладыя дзяўчаты выходзяць калекамі на на ўсё жыцьцё. Жывуць марамі ды лятуценьнямі, але не сапраўднасьцю.

Шкода для бацькоў вынікае падвойная. Апрача калецтва сваіх дзяцей, бацькі змушаны плаціць за вучэньне

ўдвая даражэй чым у іншых, нават з правамі, гімназіях, бо трэба ведаць, што гімназія імя Пушкіна правоў дзяржаўных ня мае і абітур'ентам яе ў межах Польшчы дарога да вышэйшае асьветы зачынена.

Духавенства сваіх дачок у гэту гімназію не павінна пасылаць. Нажымаў „зьверху“ ня трэба палохацца, бо вучыць сваё дзіця кожны можа дзе хоча.

Маючы дачку, якая скончыла гэную гімназію, і бачучы цяпер вынікі гэтае адукацыі, раджу бацьком дзяцей сваіх туды не пасылаць.

**Духоўны**.

---

## Наша пошта.

*Ал. Нік., Вялейка.* Пытаеце, якую гэта мову «матерную» хочуць увесьці ў царкву нашыя Выш. Дух. Улады. «Калі гэткую, якой карыстаюцца некаторыя нашы бацюшкі і цяпер, асабліва калі крыху падвып'юць, то-ж гэта будзе абраза Боская»...—Вось-жа, як відаць з усяго, Вы хіба маеце на ўвазе расейскі тэрмін «материнскій языкъ», што пабеларуску азначае матчына мова. У гэтым выпадку трэба разумець мову беларускую. А што вашы бацюшкі карыстаюцца цяпер часамі «матернаю» мовай, пішыце аб гэтым мітр. Дзянісу.

*К. П., Рускае Сяло, Прав., Крывічы, Прав. Бел., Ів. Гр., Ваўкавыск; Хв. Калінец, Маладэчна, Духоўны, Горадня.* —Лісты вашы зьмясьцілі, просім не забывацць аб «Сьвет. Бел.» і надалей.

*а. Б. і а. М.* Ваш артыкул зьмяшчаем. Пішыце часьцей, асабліва на тэмы з гісторыі царквы. Распачатую акцыю прадаўжайце.

---

## Пісьмо ў рэдакцыю.

Рэдакцыю часопісі „Сьв. Беларусі» прашу ласкава зьмясьціць наступнае.

У № 135 „Dzien. Wil.» за сёлеташні год была зьмешчана зацемка, гаворачая аб нейкім зьездзе Т-ва Прасьветы і вынесеных на ім рэзалюцыях. Вось-жа сцьвярджаю катэгарычна, што ніякага зьезду ўспомненага т-ва не адбывалася, ніхто ніякіх дакладаў не рабіў, ніякіх рэзалюцыяў ня выносілася. Аб усім гэтым я паведаміў зараз-жа рэдакцыю »Dzien. Wil.“ просячы адпаведнага запярэчаньня. Аднак рэдакцыя гэтага не зрабіла, што дае мне права ўспомненую зацемку назваць правакацыяй.

У зьвязку з зацемкай »Dzien. Wil« маё прозьвішча зьявілася і на старонках »Бел. Крыніцы», якая аднак, як адзіная паважная белар. газэта, гэткія эндэцкія правакацыі не павінна так сквапліва выкарыстоўваць. Заяўляю, што ніякіх зьездаў ня было, нікуды з Вільні я не выяжджаў.

Канчаючы, магу сказаць, што калі-бы падобны зьезд і адбыўся, то рэзалюцыі яго насілі-бы характар напэўна адваротны таму, якія правакацыйна падаў „Dzien. Wil.“

З пашанай

*Т. Вернікоўскі.*

Вільня
25 V. 33 г.

---

*Ад адміністрацыі.* Усіх паважаных чытачоў „Сьветача Беларусі“, якія да гэтага часу не змаглі выслаць падпіску, просім ласкава па атрыманьні гэтага нумару належнасьць пераслаць у Рэдакцыю часопісі. Можна паштовымі маркамі.

Выдавец: Цэнтр. Бел. Праваслаўны Камітэт. Рэдактар: У. Більдзюкевіч.
Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.

# Зьмест.